ментальнасці, прыналежнай толькі этнасам русаў!

Час бег незаўважна, а нас чакала яшчэ нязведаная дарога ў сэрца Альп. Праз пару хвілін нашы машыны зноў "глыналі" кіламетры аўтабанаў, астаўляючы за сабой прываблівыя шматформныя, з рознымі адценнямі чырвані дахі Базэля, парослыя дрэвамі горныя хрыбты, зялёныя даліны ўздоўж шумлівых рэк і ручаёў. Усё гэта плыло, мянялася, выклікала то захапленне, то зноў пачуццё насцярожанасці, калі машыны бралі крутыя павароты на абрывістых адхонах абапал шашы. Ну і даўжэрызны васемнаццацікіламетровы тунэль, што прабівае горны масіў Альп!

Раптам, з-за ўжо незлічонага чарговага павароту, раскрылася ўнізе панарама Люцэрна, змешчанага на беразе возера Чатырох Кантонаў. Заснаваны ў восьмым стагоддзі, у падножжа гары Пілатус, заслужыў ён славу горада незвычайнай прываблівасці, з мноствам музеяў, помнікаў архітэктуры і гісторыі.

Гавораць у гэтым кантоне на нямецкай мове, хоць тры працэнты жыхароў размаўляюць на сербахарвацкай, а два – на італьянскай.

Не прыдумаеш лепшага месца для перапынку, глыток кавы, кавалак піцы, бутэрброд. Прыпаркаваўшыся недалёка ад набярэжнай, вышлі мы кампаніяй на праспект для пешых, што пралёг уздоўж возера, чысціня вады якога выклікала захапленне. Дно возера было выдатна бачна на глыбіні сямівасьмі метраў, ажно хацелася ў ім пакупацца. Тратуар пульсаваў чалавечым натоўпам уздоўж рэстаранаў, буцікаў і бараў. Процьма турыстаў, як бы з усяго свету – і з Паднябеснай і Чорнай Афрыкі, і суседніх краін. Усеўшыся пры століках на тратуары, смакуючы баравыя спецыі, пры чарцы кавы, колі, шклянцы соку, мы прыглядаліся да стракатага натоўпу. Нашыя жанчыны і паненкі весела гаманілі, абмяркоўваючы пераадолены шлях. Мы, як гэта бывае з мужыкамі, вылаўлівалі з натоўпу прыгажунь і, без лішняга гамону, абменьваліся заўвагамі.

Мясцовыя дзяўчаты былі, падалося, больш саліднага складу цела, здавалася, з ніжэй завешаным корпусам, мабыць таму, каб, калі стаіць на горнай скале па-над абрывам, вецер не здзьмухнуў туды прыгажуню, што лёгка мог бы зрабіць са стройненькай даўганогай беларусачкай, для якой даўжыня ног была некалі неабходная, каб дабрацца да каханага хлапца па балоцістых палескіх гацях, не прамачыўшы самага жаданага і чаканага падарунку. У яе якраз гэты пункт цяжару цела надта высока завешаны. Таму слава Усявышняму, што ў нас няма гор, затое ў народзе пасеяна небывалая жаночая прыгажосць. Адно, чаго тутэйшым дзеўкам не адмовіш – гэта той спантаннай расслабленасці, што выплывае, відаць, ад даволі бестурботнага жыцця. Усё-такі ў прываблівасці швейцарскім паненкам таксама не адмовіш. Ёсць тое нешта, што выклікае мужчынскае зацікаўленне.

Прыемна пасядзець, расслабіцца, пагутарыць аб бачаным, аднак пара б і ехаць, каб перад захадам сонца знайсці начлег у сэрцы Альп.

Жаночая частка нашай кампаніі нечакана ўсхвалявалася: сярод натоўпу з’явіўся мужчына, які на адной прывязі вёў сваіх дзетак-блізнюкоў, бы сабак.

Роўна ў 17.00 выехалі мы з Люцэрна ў напрамку Італіі. То ўзбіраліся ўверх высока, то зноўку з’язджалі ўніз крутымі паваротамі на сценах гор, уздоўж берагоў возера Фірэальдштандст. Краявід станавіўся штораз больш манументальным, горы дыбіліся вышэй і вышэй, а дарога хвілінамі ўдзьмухвала ў вены адрэналін. Раптам горы быццам расступіліся на бакі і мы амаль тут жа з’ехалі на раўніну, паабапал якой высіліся скальныя сцены. Яна, недзе наперадзе, зноўку закрывалася сыходзячыміся хрыбтамі. Мы затрымаліся папіць хто чайку, хто кавы і перакусіць. Дзень незаўважна траціў сваю яркасць і нам трэба было як найхутчэй знайсці начлег. Рушылі мы наперад, заязджаючы ў катлавіны то тут, то там, у неадлеглыя мястэчкі.

Безвынікова. Урэшце ў чарговым месцы нехта падказаў павярнуць направа, у парослую старымі ліпамі далінку ўздоўж камяністага рэчышча бурлівай рэчкі. Праціскаючыся ля мужчынскага натоўпу мясцовых аматараў віна, што тусаваліся на пляцу нейкай габарытнай, асветленай светафорамі будыніны, абітай цёмнакарычневымі дошкамі, мы дабраліся да невялічкага матэлю, што прытуліўся да схілу гары. Усё гэта прыдавала яму хатнюю інтымнасць.

Неспадзявана вячэра аказалася святочнай. Яцэк і Мірка святкавалі юбілей семнаццацігоддзя свайго шлюбу. Урачыстая вячэра, шампанскае пры століку навонкі рэстарана, пад квяцістым дахам на фоне Альп змылі мой успамін аб падаткавых разборках, адпраўляючы яго ў па-за свядомасць.

Здалося мне, што гэта я ў шлюбным падарожжы, з заўжды прыгожай маёй Люляй.

Прачнуліся быццам адмаладжаныя працэдурамі СПА. Неверагоднае месца здымала стому нябачнымі энэргіямі, кідаючы чалавека ў бяздонне сну, куды не трапляюць нават крышынкі вонкавага свету. А падушка?! Заманьвала да адпачынку нейкім прыемным халаднаватым дотыкам і каб не тое, што генетычна закадаваная маральнасць у славянарусаў, што накідае кандалы і робіць цябе няздольным здзейсніць абрыдлівы ўчынак, гатоў быў бы яе скрасці. А так, калі ляжыш і думаеш, а твая падушка, якую мнеш і падбіраеш не адзін дзесятак разоў, пачынае парыць тваю галаву, нявольна ўспамінаеш забыты ў катлавіне Альп прытульны матэль і зачараваную падушку.

Той, хто прыдумаў шведскі стол, заслужыў прэмію, хай сабе і не нобелеўскую. Але калі глядзіш на супердэмакрата, які разбурыў некалькі краін, а іх народы кінуў у бязвыхадную яму хаосу, а цяпер паслаў забойцаў з ЧВК на ўсход “Акраіны”, траціш пашану да некалі прэстыжнай прэміі, што спаўзла да ўзроўню лімерыкаў Віславы...

Аб’еўшыся, бы галодныя пацукі ў назапашанай каморы, імчалі мы крутымі серпентынамі то ўніз, то ўверх уздоўж

цёмна-сіняга возера Ляго-Мадьорэ, заманьваючых зрок чырванню дахаў мястэчак, што распаўзліся цягам ягоных берагоў недзе ўнізе. І нідзюсенькі слядоў беспарадку, негаспадарлівасці ці брыдоты.

А калі б, на той прыклад, у Польшчы ці Беларусі, стварыць нейкую дзяржустанову па справах урбаністыкі і парадку, з правам штрафаваць хаотыкаў і рассаднікаў бруду і нечысці!? З выдзеленымі з бюджэту гмін сродкамі для пасеву газонаў і траўнікаў, квяцістых агародчыкаў, на пабудову і рамонт агароджы і ўтрымання эстэтыкі платоў, фасадаў будынкаў і вясковых хат, з ліквідацыяй развалюх. Каб зніклі з пейзажаў мястэчак і вёсак забалочаныя, смуродлівыя панадворкі, поўныя гнойных жывёла-птушыных адходаў, па якіх агідліва ісці. Можна было б для гэтага прыцягнуць фонд Сораса "Адкрытае грамадства", фонд Карнэгі або НЭД ці айрэкс. А можа нават фонд "Адэнаўэра", што ў Польшчы займаецца нібыта зборам доказаў ксенафобіі... Хай паны прызначаць частку грантаў на павышэнне стандарту адкрытага грамадства, каб не палохала пахам панадворкаў шляхетных дыспанентаў фондаў, што збіраюцца адчуваць сябе ў Сінявокай бы дома, калі з удзячнасці за ўладу сябрукі здадуць ім ўсю нацыянальную маёмасць. Як у Польшчы. Найперш – усялюсенькія СМІ, па апошняе мізэрнае калгаснае барахло, каб больш ніколі не прарвалася любое зерне праўды ці хоць бы крышынка іншага погляду на ньюордэрны парадак.

Вось так. Едзеш і прыглядаешся, а розныя думкі клубяцца ў галаве, калі з пачуццём захопленасці бачыш нявыдуманы швейцарскі варыянт "орднунгу".

Граніца – без разглядання пашпартоў. Па абодва яе бакі пагранічнікі гутараць па-італьянску.

Пейзаж за мяжой яшчэ нейкі час ніколькі не мяняўся, пакуль не выскачылі мы на міланскую раўніну, што распаўзлася ва ўсе бакі да гарызонту. Гадзіны манатоннай язды і вось пры самай рэчцы Лямдра трэснуў шланг у "Фран-

тьеры” Яцэка. Дзякуй Богу, тут, інакш невядома адкуль было б узяць ваду ў радыятар. Яцэк прыняўся за рамонт, а нашы жанчыны падрыхтавалі цёплую страву на беразе ракі. Хлопцы Павел і Куба зносілі пэтавымі бутэлькамі неабходную колькасць вады для радыятара з нявысахлай рэчкі, што ў Італіі ў гэту пору рэдкасць.

Мілан мы аб’язджалі з захаду. Супольная паездка – гэта неабходны кампраміс паміж тым, што табе хочацца, і тым, што важна для тых, з кім падарожнічаеш. Што з таго, што міланскую кафедру з чатырнаццатага стагоддзя многія лічаць прыгажэйшай у свеце, а з яе даху, куды дабярэшся ліфтам, можаш пабачыць захапляльную панараму горада. Калі здолееш сарыентавацца з картай горада, можа быць адтуль пабачыш гмах оперы Ля Скала, дзе для шчасліўцаў спявала Марыя Калас, або квартал Брэра, дзе студэнты тамашняй Акадэміі мастацтваў прадаюць свае акварэлькі і карціны, намалююць твой партрэт, а калі захочаш перажыць мастацкае захапленне, можаш зайсці ў слаўны музей мастацтва Пінакотэка ді Брэра. Выйшаўшы адтуль, афінееш ад клімату вузенькіх завулачкаў, бараў і кафэек, дзе тусуецца мясцовая багема.

Успамінаць мужчыне пра ўпушчаны шанс прайсціся па самым слаўным ў свеце цэнтры мод, дзе на кожным кроку сустрэнеш прыгажуню, проста грэх.

Магчыма, што я змог бы пераканаць Яцэка заехаць на гадзінкі дзве ў горад, аднак пастаўленая ім умова, што ў такім выпадку няма магчымасці затрымацца ў Генуі і Пізе, што будуць на нашым шляху, паставіла мяне ў тупік. Прыйшлося пакарыстацца ўяўленнем, спаглядаючы час ад часу на прадмесці горада, імкнуўшыя назад.

А тым часам машыны паглыбіліся ў незлічоныя павароты на схілах Лігурыйскіх гор, не надта высокіх і стромых, аднак пакручаных мноствам асобных хрыбтоў, паміж якімі зеляніліся парослыя акацыямі катлавіны з панарамамі пасёлкаў і мястэчак. Праехалі мы  мо дзесяткаў пяць тунэ-

ляў, пакуль з-за чарговага павароту не адкрылася панарама Генуі ў поўнай велічы славутага горада-дзяржавы.

Уехалі мы ў горад, прыпаркаваліся побач з портам, выпрасталі косці. Сонца стаяла высока, нагрэтыя тратуары падтрымоўвалі спякоту. Пара перакусіць, напіцца нечага халоднага. Пад цяністымі аркамі ўселіся мы за вольныя сталы, заказалі перакуску. Смакавала схалоджанае піва ў высокіх шклянках са стандартным тут аб’ёмам у дзвесце пяцьдзесят. За руль сядзем праз гадзіны паўтары, так што можна не турбавацца. Нашы жанчыны чыталі нам з прыхопленага з дому турдаведніка, што варта пабачыць. Прыемна слухаць, седзячы ў цяньку, расслабляючыся смакам піва, ведаючы, што вось гэтыя палацы, пляцы, музеі, фантаны і ўсё, ўсё гістарычна і мастацка вартаснае, вось недзе тут побач, хопіць распытаць афіцыянта, як туды прайсці. Гісторыі пабудовы палацаў, сабораў і касцёлаў, а нават першага ў свеце банка св. Юрыя, плылі ў нашым уяўленні, заманьвалі паглядзець. Сядзіш, п’еш піва, перакусваеш, слухаеш, расслабляешся ў прыпартовым рэста-ране -бары незвычайнага горада. Паглядаеш на сам порт і дзівацтвы ў ім, пазначаныя ў турдаведніку. І парусінік, галеон “Нептун”, на якім здымалі фільм Романа Палянскага “Піраты” – недзе тут. Проста кайф, пасля соцен кіламетраў пераадоленай дарогі.

Горад, заснаваны да нашай эры, ужо ў трынаццатым стагоддзі дасягнуў нечуванага росквіту, дзякуючы гандлёвым зносінам з татарамі і Руссю, адкуль везлі скуру і дрэва і процьму іншых тавараў. Генуэзцы вялі шматлікія войны і марскія бітвы з венецыянцамі за рынкі і гегемонію ў басейнах Чорнага і Міжземнага мораў. З Пізай генуэзцы выйгралі бітву за Корсіку ў 1298 годзе. Гэта быў пік магутнасці Генуі, якая пасля, у 1381 годзе, прайграўшы шэраг бітваў, патрапіла ў поўную залежнасць ад Венецыі, ад чаго пачаўся заняпад яе палітычнага значэння. Тым не меней заставалася яна адным з важнейшых гаспадарчых, ганд-

лёвых і культурных цэнтраў.

Тут нарадзіўся Хрыстафор Калумб, да якога корэнні выводзяцца напрамкі з дынастыі Ягелонаў, непадзельна правячай у Польшчы. У сваёй кніжцы Эмануэль Роза з універсітэта Дьюка Паўночнай Караліны сцвярджае, што Хрыстафор Калумб не быў сынам простага генуэзца, а менавіта – караля Польшчы Уладзіслава III Варненьчыка. Адным словам – наш, унук Ягайлы і княгіні Сонькі Гальшанскай. А калі так, то няма найменшага сумніву, што ў венах Калумба плыла ўходнеславянская кроў беларусаў. Што гаварыць, прыемна ведаць, што беларусам быў сусветнай славы авантурыст, які для белага чалавека нанава адкрыў кантынент, які быў забыты ім даўным-даўно, калі яшчэ навокал нашай Мідгард-зямлі кружыў другі, акрамя Месяца, спадарожнік Фатта. Быў ён, у выніку фатальнага рашэння, знішчаны атлантамі дванаццаць тысяч сямсот чатырнаццаць гадоў таму назад. Пасля гэтага фатальнага здарэння чалавецтва было ўкінута ў каменны век, якога яно раней ніколі не ведала. Раней на нашай планеце сотні тысяч гадоў існавала неверагодна развітая цывілізацыя, прынесеная старэйшай расай зямлі, славяна-арыямі...

А мы сядзім у горадзе, якому ўсяго тысячы тры гадоў гісторыі.

Родам адсюль адмірал Андрэа Дорыя, славуты жаўнер, марак і авантурнік, які сваё жыццё прысвяціў незлічоным бітвам. У XVI стагоддзі з генуэзцамі ён граміў мусульманскіх піратаў і гішпанскі флот, вяртаючы гораду належную славу. Фатальна закончылася гісторыя пасажырскага парахода, названага ягоным імем, які, сутыкнуўшыся са шведскім караблём, пайшоў на дно. Загінула звыш дзесятка пасажыраў, іншых уратавалі.

А вось Джузэпэ Гарыбальдзі – чалавек неразрыўна звязаны з Генуяй, масон, Вялікі Майстра ложы Вялікага Усходу Італіі, сваім жыццём спрычыніўся да ўваскрашэння Італіі і аб’яднання яе зямель. Мае тут свой помнік.

Нарадзіўся ў Генуі і сусветнай славы скрыпач Паганіні, які выглядам сваім і паводзінамі здзіўляў сучаснікаў. Хтосьці некалі аб ім сказаў: віртуоз, фанат азарту і бабнік. Таксама ўвекавечаны помнікам.

І процьма іншых славутых генуэзцаў.

Дастаткова. Наслухаліся мы ад жаночай часткі каманды, якая чытала нам па чарзе гісторыю Генуі. Пара прайсціся па горадзе, дабрацца да славутага "Сіці Генуя" – пляцу Ферары, дзе расселіся многія банкі, фінансавыя інстытуты, а перш за ўсё опера і Акадэмія мастацтва, што для мяне, не здзейсніўшагася мастака, асабліва важна. Дайсці туды старымі вузенькімі вулачкамі, памачыць рукі ў славутым фантане, пстрыкнуць фотку нашым дамам на фоне палаца Дожаў, каб ім у зімовыя вечары здавалася, што вось толькі што, пасля ранішняга туалету, выйшлі пагуляць па горадзе. Для жанчын прэстыж і багацце – найпершы сэнс жыцця, важней, відаць, за каханне.

У зацененых вулічках тэмпература рэзка паніжалася, так што не вельмі натужна было ісці ўверх. Няспешны шпацыр па каменных плітах маставых, характэрная для міжземнамор'я архітэктура старога горада выклікала жывую прысутнасць толькі што прачытанай гісторыі з жыццяпісамі выдатных постацяў, якія ўскіпалі бурлівымі эмоцыямі кахання і нянавісці – недзе тут, у сценах камяніцаў, што побач. Шлях ад Порта Антыка праз вузкія вулачкі, а пасля праз Віа Лёрэнца побач з захапляючай архітэктурай Кафедры нікольк і не доўжыўся, дазваляў уяўленню перамяшчацца ў прасторы вякоў, спіхваючы пакінуты ў Польшчы ўспамін змрочнай рэальнасці апошніх гадоў па-за парог памяці. На Піяца дэ Ферара натоўп турыстаў, моладзі, што абсела край фантана, шум пырскаючай вады, у якой пераменліва ўзнікала вясёлка – дуга Бога Ра. Радуга.

Не доўга цешыліся мы фантанам, навакольнай архітэктурай, тусуючымся натоўпам, атмасферай самога Піаца дэ Ферара. Яцэк пільнаваў наш рэгламент і напомніў, што калі

забалаганім тутака яшчэ з паўгадзіны, пра заезд у Пізу можам толькі памарыць. Шкада, аднак аспрэчваць гэта – паўнейшая бязглуздзіца.

Ехалі мы нашай "Рэно 25" за "Фронтьерай" крутымі паваротамі Лігурыйскіх гор, раз за разам хаваючыся ў незлічоных тунэлях, без якіх дарога была б нашмат даўжэйшай. Горы апускаліся ў напрамку Лігурыйскага мора сотнямі доўгіх, своеасабліва пакручаных, невысокіх хрыбтоў. Зусім нечакана, праехаўшы звыш стасарака кіламетраў, мы вырваліся на пізанскую ўзвышанасць. Зараз жа, з левага боку, у сямі-васьмі кіламетрах ад нас, паказалася Крывая вежа. Яшчэ не вечарэла. І слава Богу, таму што на поўдні вечар нечакана пераходзіць у ноч і не ўсё зможаш пабачыць.

Піза. Колькі цудаў даводзілася чытаць і слухаць пра яе, а на самай справе пра вежу на плошчы Цудаў. І вось, яна там! Чарговы горад-дзяржава, з традыцыямі, сягаючымі рымскіх часоў. Упаўшая пад ударамі германскіх плямёнаўварвараў, яна адваявала сваю, прызнаную кесарам, аўтаномію ў дзесятым стагоддзі. Ужо тады станавілася яна цэнтрам намнога шырэйшага рэгіёна. Нават Генуя выпрацоўвала сваё месца ў гісторыі пад яе крыламі. Магутнасці абодвум гарадам надаваў не толькі міжнародны гандаль, але ў большай ступені змаганні спалучаных флатоў з арабамі, якія прынеслі шэраг перамог. Былі ачышчаны ад арабскіх піратаў астрава заходняй часткі Міжземнага мора, а хутка, у 1022 годзе, перамаглі іх і на Сардыніі і ажно праз семдзесят гадоў выгналі арабаў з Корсікі. Наступнае ўжо пакаленне заваявала Майорку і змагалася за Сіцылію. На першы крыжовы паход Піза выставіла сто дваццаць караблёў. Аднак абодва гарады пачалі змаганне за Сардынію і, пасля паражэння Пізы ля берагоў вострава Мэлёрыя, Сардынія і Корсіка перайшлі пад панаванне Генуі. Але ж не надоўга.

Услухоўваючыся ў голас Люлі, якая чытала ўслых пра гісторыю Пізы, мы незаўважна ўехалі ў горад – чысценькі, прыгожы і чым бліжэй да цэнтра, тым болей шматлюдны.

Урэшце я павярнуў за машынай Яцэка і мы затрымаліся на паркінгу побач з плошчай Цудаў. Паўнюсенька навокал турыстаў з розных канцоў свету, узброеных тэхнікай фота і відэа, што імкнуліся пазначыць сваю прысутнасць на фоне вежы і базілікі. Магутны сабор з 1066 года, пабудаваны на плане катэдры, з візантыйскім купалам і моцным фасадам, здаецца, схіляецца налева. Магчыма, таму сто адзінаццаць гадоў пазней была пабудавана вежа, якую, пэўна, для раўнавагі, перахілілі направа, з-за чаго яна сталася адным з цудаў свету.

Вечарэла. Доўгія цені значылі вастрынёй колераў контуры вуглоў. Промні сонца мільгалі залацістай чырванню ў шыбінах. Міжвольна адчувалася, што знаходзішся ў месцы асаблівым, эманаючым энергіяй. Раптам знікла спацеласць, а стрэс, які спадарожнічае чалавеку, у якога няма часу і які заўжды спяшаецца некуды, прапаў бясследна. Сапраўдная плошча цудаў. Цуд архітэктуры і чагосьці большага – цуд месца, або месца моцы. Можа нехта некалі гэта патлумачыць. Тут нанава адкрываеш слова шпацыр. Цела тваё, твой арганізм акунаецца ў стан выцішэння, а ўнутры цябе родзіцца нешта, што закалыхвае цябе, быццам далікатная і ўсёагортваючая, насычаная глыбіннай любоўю, музыка. Кожны, хто па-за свядомасцю адчувае зроджаныя тут вібрацыі душы і цела, стараецца міжвольна злавіць і затрымаць на вечнасць усплёскі пачуццяў, якіх ні на кадрах відэа, ні клетках фота затрымаць немагчыма. Хто ведае, ці вострыя наканечнікі купалоў і сама вежа, накіраваная пад вуглом ў вядомы архітэктарам-будаўнікам пункт неба, не збіраюць і кампрэсуюць энергію захаплення натоўпаў людзей, а можа скануюць іх веды і памяць і транслююць іх неапазнанымі чалавецтвам і навукай каналамі ў іншыя вымярэнні свету ці сусветы, каб там даваць сведчанне людской дабраты.

Уздоўж муроў плошчы кіпіць базар. Чорнаскурыя гандляры ды прадстаўнікі іншых рас і нацый прапануюць цалкам расклееным турыстам скураныя курткі, рамяні, касметыку і

масу ўсялякай усячыны. Залатыя “Ролексы” таксама... Некалі, падчас падводнай экспедыцыі ў Венецыі, дзе наш вадалаз, капітан пажарнікаў, купіў сабе дзве залатыя “Амегі” за паўдарма. Ужо пералічваў свой заробак, а тут ювелір Войтэк, які таксама быў з намі як спонсар, а па сутнасці як сябар, прыгледзеўся да іх і – спусціў Паўла з вышыні на зямлю. Гадзіннікі не залатыя, а пазалочаныя і прытым кепска. Таму мы цяпер без жалю адпусцілі шанс хуткага ўзбагачэння. Падумаць толькі: купі некалькі “Ролексаў”, прадай іх дзядзькам з тоўстымі кашалькамі і ўвесь кошт сённяшняй экспедыцыі сыходзіць да нуля, ды яшчэ піруй да пераможнага канца ў прыпартовых тавэрнах! Во, дзе праўда! Во, жыццё!

Змяркалася. Наш паром адплыве ў 0.30. Адлегласць не страшная, кіламетраў трыццаць, каб даехаць у горад, адшукаць порт, знайсці месца блізкай прыпаркоўкі, каб пасля без мітусні і стрэсу уехаць унутр параходзішча, запаркаваць машыны шчыльна адна пры другой і знайсці добрае месца на палубе, каб не стаяць паўночы, падпіраючы сцены надбудовак. Таму, хоць неахвотна, аднак станоўча трэба было збіраць распоўзаную кампанію і фрахтаваць на борт аўта, каб у поцемках, пры фарах, з’ехаць такімі ж закрунтасамі ў Ліворна.

Пры набярэжнай машын было мнагавата, яны прыбывалі сюды з кожнай хвілінай і прыпаркоўваліся далей за намі. Чакалі, калі наступіць гадзіна “зэро”.

Моладзь наша між тым шалела на роліках, круцячы выкрунтасы сярод людзей і машын. Жанчыны рыхтавалі вячэру і бутэрброды на борт, а мы з Яцэкам прабіваліся праз партовыя фармальнасці. А пасля, чакаючы парома, вячэра на турыстычным століку і палатняных раскладных крэслах прама на ніскастрыжанай траве, пры ліхтарах, яркі свет якіх дазваляў пасля паням чытаць “арлекіны”. А мы з банкамі піва ў руках, раскашуючыся яго расслабляльным смакам, прыглядаліся да натоўпу, абменьваліся заўвагамі, калі ў поле

нашага зроку трапляліся прываблівыя паненкі, скупа апранутыя, як на познюю пару. Надвор’е, нагрэтае летнім сонцам, не спускала з тону.

Калі шлагбаўм пайшоў уверх, мы рванулі ў напрамку парому. Яцэк уехаў першы, а мяне паспелі апярэдзіць толькі два “тальяны”. За намі распачаўся кашмар узаемна блакуючыхся машын, паўднёвыя ўсплёскі эмоцый, інтэрвенцыі каманды парома. Мы тым часам занялі месца на лаўках пры борце вышэйшай палубы, расклалі падручныя рэчы пад нагляд жанчын і сышлі пад палубу да фры-шопіка абкупіцца як след звольненымі з мыта і акцызы віскачамі, віном, “чоклітам”. Тут віскі прадавалася ў цане звычайнай гарэлкі ў краме. Яго павінна хапіць нам на ўвесь выезд. Моладзь наша парушыла свае кішэнныя, ведаючы, што “старыкашкі” не раз яшчэ раскашэляцца, папаўняючы іхні запас кэшу. А ўнізе разыгрываўся сярод гамону і клаксонаў працяг змагання, як нам здавалася, за быць або не быць на пароме, натуральна.

Прысеўшы побач са сваімі, адкрылі мы нашым жанчынам віно, а самі далі сабе дазвол выпіць па адной, а то й другой чарцы. Віскач прыемна раствараўся ў венах, ноч накрыла сваімі азоранымі крыламі паром, які дрыжэў ад цягі магу-тных вінтоў, што пакідалі за сабой светлы флуорасцэнтны доўгі след. Абышоў я наш велізарны “Corsica Feries”, пасля адшукаў ратаўнічыя камізелькі, дарогі эвакуацыі, калі б раптам што не так. Трэба ж, калі ты з блізкімі! Магчыма, гэта толькі сіндром “Тытаніка”, у рэжысуры Камеруна. Дзесьці гаслі, цалкам знікаючыя за крывізной гарызонту, іскаркі светафораў кантыненту. Пагасла святло, сціхла музыка і паром агарнуў аздараўляльны сон.

Вырвала мяне са сну бадзёрая музыка. Народ выплыў са ўсіх закуткаў і з-пад палубы. Наўкола парома вісела цемра, толькі фасфарычны след вінтоў значыў напрамак нашага руху. Было халаднавата. Світанак на поўдні хутка пераходзіць у светлую раніцу, таму спачатку мы пабачылі контур

Корсікі, з вышчарбленымі хрыбтамі і іскрыстае мільгаценне адлеглай Бастыі, дзе значыўся наш порт, а неўзабаве і ўсю Корсіку, якая набліжалася да нас.

З’ехалі мы з парому на самым пачатку разгрузкі, напоўнілі бакі палівам, купілі два падводныя аднаразавыя фотаапараты па трыццаць шэсць фотаклетак кожны і, не марудзячы, кіраваліся на той бок вострава дарогамі, якія неаднойчы разглядалі на карце. Звыш паўсотні кіламетраў ехалі мы добрай бясстрэсавай дарогай, пакуль не звярнулі на Д-84, у напрамку Эвізы і Порта. На самым яе пачатку, пры рэчцы, мы затрымаліся на снеданне. Гарачыя супчыкі, бутэрброды з разнастайнасцю начынкі. Чай і кава. Нармальна. Перад намі складаны шлях. Спачатку ўверх на вышыню за 1700 метраў, а пасля дваццацікіламетровы з’езд.

Спачатку нас сустрэлі парослыя карлікавай сасной скалы, а калі паміж імі адкрывалася прастора, бачны былі далей лагодныя нахілы з каштанаўцамі. Увесь гэты сельскі пейзаж хутка ўступіў месца скальным абрывам, а пасля – толькі голыя чырвоныя сцены гор, якія раслі ўверх. Дарога звузілася да цеснаты дзвюх машын, калі б іх паставіць побач, а месцамі і таго меней. Яна вілася, бы змяя. І за кожным паваротам адкрывалася непаўторная прыгажосць, так што не было часу на чалавечы страх. Мозг, што праўда, не прывык яшчэ да такіх умоў, калі па левы бок дарогі, недзе там, унізе бурліць, раве рэчышча Галё, а з правага машына, здаецца, ледзь-ледзь не трэ аб скалу. Таму яна адчувалася даволі небяспечнай. Машыны ўвесь час шлі ўверх. Непадалёку ад самага сядла Коль дэ Вэрджыё нечакана ў нашым “Рэно” закіпеў радыятар. Я ўключыў нагрэў на “фуль”, як у швейцарскім восемнаццацікіламетровым тунэлі па дарозе ў Люцэрн і, мабыць, таму нам удалося даехаць на прасторную станцыю дэ Вэрджыё, на вышыні 1720 метраў. Адсюль пачынаўся дваццацікіламетровы схіл да мора ўздоўж бурлівай ракі Порта, якая выразала нябачнай прыгажосці каньён. Мы затрымаліся, каб нагледзецца на горную

вяршыню М. Цынта, якая высілася направа яшчэ на адну тысячу вышэй сядла Вэрджыё, сягаючы 2710 метраў. Яго насычаныя чырванню сцены прыцягвалі вочы. Прыемна было, асабліва нашай моладзі, паскакаць па прасторных ступеньках скал, сфатаграфавацца ў пустынным пейзажы жывапісных форм.

Пару кіламетраў далей, па вузенькай дарожцы, на шырыню мо паўтары машыны, мы з’ехалі на ўскраек пініёвага бору, прыроднага цуду Корсікі. Яшчэ пару паваротаў і мы даехалі да вадаспадаў д’Айтонэ. Спачатку абскочылі нас свінні. Некаторыя, становячыся на заднія ногі, абапіралі пярэднія аб дзверы машыны, засоўвалі свае рылы ў адкрытае вакно і, раздзіраючым квікам, дамагаліся пачастунку. Вазьмі і не дай – не выпусцяць з машыны. І сядзі там, калі іншыя, хто не паскупіў, могуць сысці па скалах ўніз да ізумрудных вазёрцаў, што сярод скальных пліт, абрамленых парусмымі соснамі-пініямі небывалай праматы і вышыні, ды будуць мачыць свае ногі, а то і целы ў вадзе крыштальнай чысціні.

Люля хутка адшукала пакецік, у якім трымала хлеб і, крышачы яго на кускі, раздала свіному рэкету. Мы маглі выйсці і, адбрэхваючыся неадчэпным ад нас свінячым жулікам, што моў “ўсё раздалі і больш няма”, сышлі па ашліфаваных скалах на каменныя берагі вазёрцаў, створаных рэчкай Порта. Ізумрудная зелень чысцейшай вады мінівазёрцаў, сярод бела-ружовых каменных пліт, на якіх сядзелі, прыехаўшыя раней за нас людзі, пару дзетак стаяла ў халоднай вадзе, што сплывала па каменных полках з вышэй б’ючых крыніц. Вада сцякала яшчэ ніжэй, напаўняла ашліфованае скальнае карыта бурлівай, пенлівай ракой, паміж двума горнымі хрыбтамі. Вось тут можна расслабіцца. Можна пастраляць з фотаапаратаў, бы абкружаныя салдаты, ва ўсе бакі, і ўніз і ўверх, а пасля зрабіць і самім сабе партрэты на фоне і фон з нашымі постацямі. А дома разбярэмся. Дзеці на тое яны і дзеці, каб усюды далезці, усяго

паспрабаваць. Скінуўшы кашуліны ды кароткія штонікі, кінуліся ў горнае вазёрца, фурчэлі, апаленыя холадам, аднак плавалі па ім то ўздоўж, то ўпоперак, калі мы, прысеўшы на скале і замачыўшы ногі  вышэй костак, так і не рашыліся на поўны кантакт з ім. А там, унізе, узмоцненая другімі цячэннямі і набіраючая моцы рака, гудзела вадаспадамі. Мы сышлі туды, каб паглядзець і пафатаграфаваць на памяць.

Пачаўся апошні этап нашай дарогі. Калі ўезд сюды рабіў незабыўнае ўражанне, то з'езд яшчэ нашмат мацнейшае. Карсіканцы, якія з дзяцінства прывыкаюць да абрывістых прорваў, не забяспечваюць турыстаў перад імі ніякімі бар'ерамі. Пра небяспеку сігналіць пакладзены будаўнічымі дарог камень на павароце – каб ты не ўздумаў ехаць напрамкі. На самай справе з адных паваротаў і збудавана гэта дарога. Каб машынам тут размінуцца, раз на пару дзесяткаў метраў падрыхтавана шырэйшае месца, дзе цябе чакае аўто, пакуль яго не мінеш.

Ну і так ехалі мы. Так сказаць, у поўнай цішыні. Люлі, якая на гэты раз сядзела побач са мной, калі я паварочваў налева, здавалася, што машына ейным бокам выстае ўжо над абрывам, і яна глядзела некуды ўверх, каб не бачыць усяго таго, што магло б ёй пасля, не дай ты Божа, прысніцца. Вядома, сон дарысуе яшчэ што-нешта... Вярнуцца ж пешшу немагчыма. А на самай справе пейзаж захапляў сваёй непаўторнай прыгажосцю. Па-за абрывамі дарогі, з яе правага боку, чырванню з дамешкай фіялетаў свяціліся скальныя сцены гор, сыходзячыя з вышыні двух тысяч сямісот метраў да самога мора. А недзе ўнізе, дзе бурлівымі вадаспадамі гудзела рака, рысаваліся аліўкавай зеленню, з асветленымі сонцам мазкамі блікаў Веранеза, чубы акацыяў і ўсялякіх калючак. Усё гэта, бачанае вуглом вока, у спешцы, каб ні на міг не страціць кантакту са звілістай дарогай, магло заперці дух у грудзях небывалай прыга-жосцю. Недарма грэкі, якія пару сот гадоў да нашай эры адкрылі гэты востраў, назвалі яго Корсіка. Прыгожая.

Урэшце шаша пайшла па прамой, зніжаючыся пад салідным вуглом і зараз жа направа адкрыўся эўкаліптавы гай, які сыходзіў да пясчана-камяністага пляжа. За пару-сотметровай шырыні далінай, па другі бок ракі, чырвонымі будынінамі расселася невялічкае мястэчка, як і ўсё іншае тут, названае Порта.

Усё! Даехалі. Дзяўчына з рэцэпцыі хутка аформіла нас, дала ключы да домікаў, што недзе ўверсе гары, паміж дрэў. Зносілі мы туды рэчы, сыходзячы па пару раз уніз, каб нарэшце рассесціся пры салідным стале з лавамі, што стаяў на нашым пляцы, які ўпіхаўся ў скальную сцяну пры доміку. Яцэк з сям'ёй пасяліўся дзвюма тэрасамі ніжэй, у трохпакаёвым бунгала. Дзяўчаты прыняліся за падрыхтоўку абед -вячэры, моладзь збегла ўніз кемпінга, а мы з Яцэкам адкрылі бутэль віскі. З другога боку кемпінга высілася манументальная, незвычайна маляўнічая вяршыня Капу Вітулю. Пад ім, метраў сотні дзве ніжэй, вертыкальная сцяной доўжылася, бы нажом урэзаная, фіялетава-сіняя гара, з-пад якой сплывалі ўніз пакрытыя зеленню дрэў, пагоркі. Абсалютна нішто не закрывала нам цуд-панараму. Сядзі, любуйся, расслабляйся. Здаецца, усё так павінна быць заўсёды, хоць бы тое віскі. C'est la vie!

*

Птушыны шчэбет пранікаў праз тоненькія драўляныя сцены бунгала. З суседняга пакойчыка чуваць было пасвістванне паглыбленага ў каменны сон Паўла. Спрасонку загарнуў я рукою пустую, яшчэ цёплую прастору. Люля ўжо мітусілася вонкі, на паўганачку пры кухні, запарваючы сабе рытуальную зранку каву, без якой цыгарэтка смакавала б, як збуцвелая трава. Я ад нікатынавага рабства вызваліўся. Успомнілася, якія прадукты ўчора ўпакоўваў я ў свабодныя шчыліны халадзільніка, таму без жалю пакінуў прыемны ложак і ашаломлены велічынёй Капу Вітулю спачатку не

ўцяміў, што ў ягонай сцэнэрыі надта прывабліва явіцца мая Люля. Заахвочаны гэтым пачуццём і надвор'ем, ушчыпнуў яе нават, але незаслужана афукнуты, усеўся за стол пры доміку і з шумам адкрыў банку піва. На бурбалках пены каляровай вясёлкай зайгралі выпырхнуўшыя з-за гары промні сонца. Якая раскоша!

З суседняга доміка пачуўся далікатны скрып дзвярэй.

– *Bonjour monsieur,* – пачуў я і ўбачыў усміхнутую і свежанькую, пасля толькі што прынятага душа, суседачку. Яшчэ вільготнае цела яе, асабліва спелыя акругласці, абляпіла лёгенькая, быццам тканая з шоўкавай пражы, падомачка-халацік.

– *Bonjour mademoiselle!* – ветліва адказаў я і ледзь не папярхнуўся півам, калі раптам дайшло да мяне, што пад шоўкавай сукеначкай на ёй нічога няма! “Трымайце мяне, людзі добрыя!” – праляцела нешта падобнае праз мазгі, аднак, запалонены дзіўным імпульсам, хлынуўшым аднекуль знутры, закінуў я няспешна ногі на стол і стаў захапляцца смакам піва, водарам раніцы і з'явай, што няспешна мітусілася ля свайго доміка. Калі паглядала ў мой бок, я падымаў баначку піва і шчырыў зубы. Ах, гэтыя француженкі!

Раптам вырваў мяне з райскіх лугоў, на якіх пасвіліся мае мары, хрыплаваты голас Яцэка.

– То я кручуся, бы жучок, з аквалангамі, а ты піва цэдзіш!?

– О, халера! Забыў!

– Веру, – сказаў прыцішаным голасам Яцэк, спаглядаючы ў напрамку гор, што купаліся ўжо ў праменнях сонца з жанчынай на першым плане, якая стала выносіць і развешваць, прыўстаючы на пальчыкі, бялізну. – Сам глыну піўка, – сказаў і, рассеўшыся на лаве, нацэліў зрок ў слушным напрамку.

Я хуценька збегаў за півам.  Смакатня...

Тым часам паявіліся Міра з Магдай і Мартай, а неўзабаве і Куба. Снеданне з поўным букетам смакаў, са сма-

жанымі яйкамі, не атручанымі, як цяпер ужо камбікормам, насычаным канібальнымі элементамі птушынага пер'я. Міра яйкі купіла яшчэ ў гаспадыні каля Чэнстаховы.

Стартанулі мы праз гадзіны дзве з порту побач старажытнай абарончай вежы, што ў вусці ракі. Нашу пантонную лодку "MARINES" накіраваў Яцэк курсам на чырвона-фіялетавы мыс Калянш. Пантон з сям'ю асобамі і аквалангамі цяжка прабіваўся праз хвалі заліва. Прыглядаліся мы да высокіх кліфаў непаўторнага Калянша, занесенага ў цуды прыроды. Серпантынамі ўверх абрыва няспешна прабіраліся машыны. Колер скал набіраў насычанай чырвані ў сотнях адценняў, ад жаўцізны да карычневых фіялетаў. Пачаўся фестываль форм скальных масіваў, рваных выбухам вулкану ў гіганцкія кускі, што выклікала ўражанне, быццам шалёны разьбяр, у якога на наркакайфе пабрэнталіся вымярэнні, даў тут волю сваім пачуццям і творчаму ўяўленню. Прыглядаючыся да ўсяго гэтага з боку мора, можна аслупянець ад захаплення. Адсюль мы бачылі маленькія фігуркі людзей, якія, затрымаўшы на абочыне машыны, стаялі над абрывамі, на фоне вогненнай чырвані, з цагляна-карычневымі ценямі і мазкамі фіялетавай сінізны.

Тут нічога не трэба прыдумляць ці шукаць у закутках уяўлення, каб стварыць супермадэрны вобраз прасякаючыхся форм і колераў. Бяры, малюй, накладай на палатно поўнымі жменямі колеры, і ўзвыеш з захаплення ад уласнага тварэння. У глыбіні маёй душы шчымелі ноткі жалю па змарнаваным падарунку ад самога Творцы, што выплывалі з ягонай энергіі касмічнай любові, пранікаючай усё цяперашняе і будучае, якія ёсць і жыццём і чысцейшай формай інспірацыі.

Адплылі мы не меней пяці кіламетраў ад Порта. Пад намі клубіліся цёмна-сінія воды заліва, з гранатавай чырванню ў шматлікіх адценнях маршчын, узмацняючай адбітыя ў іх колеры скал. Глыбіня ў гэтым месцы сягала тысячы метраў.

Мы павярнулі ў напрамку камяністага залому, аб грані якога белымі грэбнямі разбіваліся хвалі. Нялёгка было высадзіць на слізкія скалы дэсант, асабліва нашых жонак, таму што моладзь, нягледзячы на фантаны пырскаў і шыпучую пену паміж магутнымі блокамі, карабкалася па склонах каменных пліт па-за парог дасягаемасці кіпучага мора. На шырокія роўнасці скал, у шчыліны якіх хлопцы ўваткнулі для мам пляжны парасон, знеслі мы ўсё: столік, палатняныя крэслы, кантэйнер з прадуктамі, газавую машынку для падрыхтоўкі ежы і кавы, грыль і "арлекіны", якія для нашых жанчын у гэтай сцэнэрыі, быццам салодкая эрагенная музыка. Запасныя напіткі і піва Павел з Кубам тут жа знеслі на глыбіню звыш пяці метраў і палажылі ў падножжы скал, каб не нагрэліся да стадыі ўзрыву, а, вынесеныя ў час, маглі хараша заспакоіць смагу.

Міра і Люля правядуць тут большасць сённяшняга дня, закрытыя ад салёных пырскаў хваль, без магчымасці паплаваць, затое могуць сыйсці ўніз паміж скалаў і залезці ў крыштальную ваду вадзянога вочка тры на два метры, глыбінёй па грудзі. Або сыйсці на грань кіпучага мора і прымаць на сябе удары разбітых аб скалы, пенлівых хваль. Гэта не тое, што легчы на карымаце сярод пляжных фанатаў сонца і плыцізны, прыкідваючыся, што цябе нішто і цалкам ніхто, па-за сонцам, вадой і шумам мора, не цікавіць. А тутака, калі ідзе дзевяты вал і дудніць ў катлавінах і падводных пячорах мора, нявольна падымаецца адрэналін і адчуваеш, што жывеш. Сапраўды жывеш, а не як у кінатэатры, дзе ўсё прыгожа, і ты, закідаючы ў сябе жменямі папкорн, глынаеш разам з ім кіношны дурман.

Мы накінулі на плечы акваланґі, паясы з волавам, маскі і ласты і пагрузіліся ў ваду. Тым часам моладзь у абц бушавала сярод гіганцкіх скальных блокаў, раскінутых некалі, у мінулыя часы, нейкім магутным выбухам вулкану, на сотні метраў па моры. Хлопцы сходзілі на ўдыху спачатку да пяці, пасля сямі, а калі расплываліся, то і дзесяці метраў,

заглядалі пад навесы скал, праплывалі праз шырокія шчыліны на другі бок, прыглядаліся да рыб і каляровых рыбак, збіралі ракавінкі. Дзяўчаты аглядалі праз маскі падводную прастору і прыстасоўвалі сваю волю да ўмоў падводнага свету, каб на адным ўдыху сыйсці ўніз на пару метраў. Кожны з нас ведаў, што радасць і сум – два бакі медаля. Мноства тут ежавікоў, пранізлівыя іголкі якіх лёгка ўбіваюцца ў змягчэлае вадою цела, ламаюцца ў ім на кусочкі і тыднямі гніюць балючымі нарывамі. Асабліва гэта надакучліва, калі хваля кіне цябе мягкім месцам на калонію ежавікоў. Вось вазьмі тады і сядзь. Выняць іх не так лёгка, або і зусім немагчыма. Ёсць у шчылінах скал і мурэны, якія, пачуўшы пагрозу ад надта блізкага кантакту з чалавекам, могуць атакаваць і небяспечна куснуць вострымі, бы скальпелі, зубамі. Знаўцы кажуць, што такім чынам можна страціць, напрыклад, паўзадніцы. Вазьмі тады і выйдзі на пляж, што поўніцца жывой жаночай прыгажосцю! Таму, мужыкі, будзьма асцярожнымі!

Сыйшлі мы з Яцэкам на глыбіню пад дваццаць метраў, разглядаючыся сярод магутных скал, парослых каляровымі водарасцямі. Колькі ж тут розных рыб і асабліва рыбак, зачароўваючых цябе шматколернасцю, ажно да цёмна-цёмных фіялетаў. Плывеш побач з імі, прыглядаешся і працягваеш руку, каб прывітацца, але ж – не, ты тут чужы і, калі надта спантанна імкнешся да кантакту, усе яны, як па камандзе, робяць той самы паварот, быццам кіраваў імі адзін супольны цэнтр, своеасаблівы саборны мозг. Дзіву такому надзівіцца не можаш, таму што немагчыма зразумець, якім цудам, у адну мікронную долю секунды ведаюць яны, што зварот назад трэба выканаць праз левы бок ці правы. Няма тут ні хаосу, ні непаразумення. Ніводная з іх не памыліцца ніколі. Хіба што кінутыя ў паніку, шугануць шматлікім гребенем на розныя бакі, бы фантан з сілай выплюхнуўшыся навонкі.

Плыць было лёгка ў спецыяльнай камізэльцы, якая

дазваляе выраўняць ціск паміж вадой і тваім целам, зраўнаважыўшы вагу да бязважкасці на дадзенай глыбіні. Цалкам як у космасе, дзе ты можаш ляцець побач з караблём галавой уніз ці ўверх, што табе без розніцы. А можаш і не плыць. Выраўняўшы ціск, стаяць сабе бы рыба, калышучыся нязначна то ўверх, то ўніз. Хтосьці некалі акрэсліў гэта словам "півот". Разглядайся ва ўсе бакі, завешаны на вышыні нібыта трэцяга паверха без канатаў ці шнуроў, то зноў можаш апусціцца на пару метраў ніжэй ці падняцца ўверх. А ўсё гэта надта проста, толькі трэба ведаць, як найперш пазбыцца страху. Гэта абсалютна неабходна, калі ты зацікавішся нечым на стромай падводнай сцяне, якая спускаецца дзесяткі, а мо й сотні метраў уніз, або заглядаеш у пячору, якая высіцца над дном і столькі ж пад паверхняю і заманьвае цябе ў сярэдзіну незямною прыгажосцю незлічоных жывых колераў мохападобнай фаўны, што высцілае залы і пакоі падводнага палаца, у якіх на любых прасторавых узроўнях кружацца, а можа танцуюць рыбы, са спакойнай годнасцю, бы дамы Нептуновага двара. Калі асвоішся зрокам і пачнеш бачыць формы і прасторы, а зараз жа і колеры, акунешся ў нешта, быццам з іншага сусвету, дзе ўверсе ці ўнізе бурліць і перамяшчаецца жыццё ў няспешным рытме, а ты, груваcткі і шумлівы, уваходзіш на салоны, у іх нямы свет, бурчыш шыпучымі бурбалкамі, што пруць уверх з-пад мембраны акваланга і разбіваюцца аб купалы святыні, дзелячыся на мноства серабрыстых мячыкаў, і паўзуць, каб выбрацца навонкі. На дзіва, не выклікае гэта панікі сярод жыхароў маўклівага сусвету, якія надалей плаваюць і кружацца навокал, пaглядаюць на цябе спакойна, без мітусні і без гамону. А каб так у нашу прастору, асвоеную людзьмі, усплыў з-за краю нябёс велікан, нікольki не падобны на нешта знаёмае, які б узнік вэрхал, якая паніка, страх і нянавісць, крык і беганіна! А тут не. Дзівата дзівосная!

Між тым Яцэк недзе адлучыўся, што для бяспечнасці

падводнага плавання недапушчальна, але дарэмна яму гэта напамінаць, бо й так не паправіцца. Чысціня і празрыстаць вады – казачная, метраў на сорак. Плывеш быццам ў гіганцкім пузыры, дзе кожны ўзмах ластаў адкрывае новыя праекцыі незямных форм, кінутых у мора скалаў, абleпленых цёмнай зеленню жывых “імхоў”, а калі яны ўпаўзаюць ў змрочныя пячоры, пачынаюць загарацца неверагоднымі адценнямі чырвані. Вазьмі толькі і кінь на іх струмень святла, а ўбачыш такое, ад чаго павінны з зайздрасці закрыцца наглуха ўсе галерэі і музеі свету. Вось туды б мастака Манэ ці Рэнуара, а няхай бы і самога Ван Гога, а можа хоць бы нікому невядомага ў Еўропе мастака сельскіх пейзажаў – Пластова. Во ўсплылі б у свет карціны. Цаны ім не было б.

А ты заплываеш унутр, глядзіш, захапляешся і думаеш – а каб узяць нож-скаларэз, выразаць два на паўтара метра, пакрытай, незразумелай глыбіні, прыгажосцю колернай палітры!? Га!? Кожны музей ці супермадэрн галерая прынялі б твой мастацкі прадукт. Адно толькі але. Але ж вядома, што не атрымаецца, таму што, сутыкнуўшыся з паветрам, водараслі-імхі тут жа задыхнуцца і памруць. Застанецца замест цуда-дзіва шэрая, пакрытая нечым каменная пліта.

Плаваў я, бы зачараваны, забываючыся на ўвесь сусвет, на ўсё, што недзе там, над маршчыністым, вечна ўсхваляваным люстрам мора. Аднак там табе не тут. Загледзішся, не паглянеш у час на прыбор – і акажацца, што няма паветра. А над тваёю галавою метраў трыццаць-сорак вады. На самай справе не так тое і страшна, калі натрэніраваны і ўмееш трымаць сябе ў руках – усплывеш на адным доўгім-доўгім выдыху. Бо калі пабаішся, што не хопіць і затрымаеш паветра ў лёгкіх або шпурнеш з ім уверх, то яно і так праб’ецца навонкі, ірвучы ў шматкі твае грудзі. Спецыяліст гляне і скажа – баратраўма. А так, плыві, любуйся і пільнуй – ціску, глыбіні і часу. Дый пералічвай, колькі табе можна быць без дэкампрэсіі. Каб радасць не ўзарвалася сумам. А

ўсё так проста. Не пераступі залатой пяцідзесяткі, сумы глыбіні і часу. Калі ты залез на сорак метраў, плавай без страху не болей хвілін пяць, каб не забіла цябе бязлітасная кесанавая траўма, каб без пагрозы для здароўя засталося табе наступных пяць хвілін, каб выбрацца навонкі, дзе свежы ветрык напоўніць твае грудзі, а сонца прывітае вясёлаю ўсмешкай.

Паглядзеў я на манаметр і час побыту пад вадою, пададаваў, улічваючы час на глыбіні, і рашыў вяртацца. Калі сонца стала іграць на пясчана-камяністым дне, а над галавой усяго метраў наццаць, я глянуў уверх і ўбачыў нашу моладзь, як недзе там, крыху налева, нырае “на бяздыху”. Пару ўзмахаў ластаў і, падплыўшы да іх, зрабіў я глупства вышэйшай пробы. Лёг на дне набок, паўстрымаўшы дыханне. Праз некалькі секунд заўважыў мяне Павел і, відаць, падумаў, што з бацькам сталася нешта дрэннае. А глыбіня з дванаццаць метраў, на самой справе не так страшна для яго, але не ў першы дзень ныранне і не ў экстрэмальнай сітуацыі. І рвануў ён ўніз што сілы ў ластах. І не паспеў выраўняць ціску, які кальнуў у вушы вострым пранізлівым болем. Не павярнуў бы ўверх, метр-паўтара ніжэй лопнула б мембрана ў вуху і забудзь пра падводныя прыгоды, пра рай на шэльфе Корсікі і сваё здароўе, а будзь адзін, мо і жыццё. Я, як стары дурань, лежачы на дне, глядзеў уверх. І калі Павел ўзяў чарговы глыбокі ўдых і зноўку пайшоў у глыбіню, я ўжо, зразумеўшы дапушчаную недарэчнасць, падымаўся ўверх, насустрач, каб паўстрымаць ягонае сілавое пагружэнне. Мы ўсплылі.

– Прабач старому дурню, сын! Вуха!?

– Вуха, – кажа Павел.

– Моцна баліць?

– Крыху.

Даплылі мы да прыбярэжных валуноў. Мірка тут жа занялася вухам Паўла, замачыла ў нейкай мікстуры вату і ўпіхнула яму ў сярэдзіну.

– Будзе добра, – кажа.

– Дзень, а то і два, не сыйдзе ён глыбей трох метраў, а ўсё праз дурноту бацькі, – апраўдваўся я, бо й ганьба старому вадалазу за кепскі падлеткавы нумар.

Яцэк таксама быў ўжо на базе, без акваланга, але ў скафандры. Стрэліў некалькі белых рыб дарада, якімі заняліся нашы жонкі. Пасмакуем на абед. Апошні раз я паляваў на рыбу год сем таму і больш не буду. Ну не магу, сумленне не дазваляе. А вось есці ем. Яркі прыклад двайных стандартаў. Ты страляй, а есці буду я.

На патэльні смажылася рыба. Цудоўным пахам заахвочвала прыпечанае на грылі мяса. Сорак пяць хвілін падводнага плавання і без таго ўзмацняла апетыт да звярынага ўзроўню. Куба нырнуў пад скалы і выняў адтуль піва і напіткі. Ну што тут скажаш!? Як апішаш стан душы, калі сядзіш з банкай схалоджанага піва, на палатняным крэселку побач з блізкімі табе асобамі, сярод скал невымоўнай прыгажосці, услухоўваешся ў гоман мора, у яго магутны падводны грукат у залах пячор, удыхаеш водар ёдам насычанага паветра, смакуеш свежаспечаную рыбу ў перакуску з памідоравым салатам з цыбулькаю. А мяса з грыля!? Ну паспрабуй і не хвалюйся, забыўшыся на ўся-люсенькія праблемы свету, фобіі, прыдуманыя і накінутыя табе варожым недзе там жыццём. Калі твой мозг вымыты глыбінёй заліву Порта Міжземнага мора да бязгрэшнасці дзіцячай чысціні, у закалыхваючых цябе абдымках най-першай маці – планеты Зямля, напаўняешся жаданнем тварыць дабро і радасць.

Час плыў ў сваім зямным рытме, паглынаючы зусім незаўважна для цябе табе адпушчаныя жыццём секунды, беспаваротна і па-за тваёй свядомасцю. Каб не думаў аб гэтым – а жыў, радаваўся, кахаў, пладзіў, вучыўся, працаваў і тварыў!

Сонца незаўважна схілялася да гарызонту. Трыццаціпаруградуснае надвор’е, са свежымі брызамі ветру, ава-

лодвала тваімі мроямі і думкамі, заахвочвала плыць у струі цудоўнага жыцця хоць бы на край свету. І дзяліцца радасцю і дарыць радасць, раздаваць яе ўсім, хто патрабуе.

А недзе ўверсе, над ультрамарынавай гладдзю мора, лунаюць без адзінага ўзмаху крылаў чайкі, то ўніз, то ўверх, то назад па кругу супраць ветру, то зноўку з ветрам. А ты сядзіш, глядзіш у захапленні і марыш.

Пасля вячэры моладзь наша знікла недзе ў прасторах кемпінгу, адкуль далятаілі ажно сюды гоман і рытмы дзіска. Недзе значна бліжэй хтосьці іграў на гітары.

З-за вяршынь Капу Вітулю вынырнуў светлы-светлы Месяц, а зараз жа за ім Юпітэр, які праз пару гадзін апярэдзіць яго і, пазначыўшы па-над цёмна-сінім гарызонтам паўкруг, схаваецца за грэбні пацямнеўшага Калянш.

Углядаўся я ў Млечны Шлях і нечакана шугануў з незразумелай лёгкасцю ў прастору, узнёсся па-над востравам, што зіхацеў мільёнамі ліхтароў і, набіраючы маху, узляцеў ў бяздонне галактыкі, астаўляючы за сабой Зямлю, якая нядоўга ярылася светлым пунктам. Мінаў неаб-сяжныя воблакі міжгалактычнай матэрыі, з якой народзяцца некалі зоры. Мае лёгкія ўдыхалі міжзорную энергію, якая запаўняе шчыльна найменшыя куточкі, усе-ўсюсенькія, без следу вакууму, які ў прыродзе і не значыцца – можа, акрамя мазгоў, што марнеюць без шматмернага уяўлення вучоных, якія Космас вывучаюць на мадэлі трохмернай матэрыі. Віншую.

Няма вакууму. Няма і ўсё! Вось што. Тое, што раней толькі падказвала інтуітыўнае чуццё, а мо і логіка, сталася раптам зразумелым і ясным, як цуд жыцця. Як тое, што пасля ночы настане дзень, а пасля буры засвеціць сонца.

*

Гадзін пару да абеду мы расклаліся базай на пясчана-камянстым маленькім пляжы кіламетра паўтара далей ад

учарашняга скальнага залому. Вада, плыцізной па грудзі, адыходзіла ад берагу на метраў пяцьдзесят, даючы нашым дамам магчымасць спакойнага плавання ў цудоўнай чысціні дваццаціпяціградуснай вады. І Паўлу разам з імі, з увагі на мой учарашні несур'ёзны жарт. Мы тым часам з Яцэкам і Кубам ныралі ўсцяж берагоў Калянш, сярод фантастычных скальных форм, што выраcталі з глыбіні звыш пяцідзесяці метраў. Мы сыходзілі ўніз усяго да дваццаці пяці метраў, на хвілін пяць і зноўку на дзесяць метраў ўверх, каб пастyпова адаптаваць арганізм і ўспомніць навыкі падводнага майстэрства.

Дзіў над дзівы, цуд над цуды! І каб толькі не ўсведамленне таго, што недзе там мой сын Павел, прымушаны бацькавым дурноцтвам, застацца з жанчынамі ў прыбярэжнай плыцізне, я быў бы блізкі райскага настрою.

Аказалася, што сын, прыглядаючыся на прыбярэжным камяністым дне да нечага вартага для калекцыі, мала-памалу нырав да двух, то зноў да трох, а там і болей метраў, выраўніваючы ціск. І зразумеў, што вацікі "цёці" Міры аздаравілі вуха, якое было блізкае да траўмы. Дык вось, калі мы вярнуліся на базу, ён сказаў мне, што з вухам ўсё ў парадку. Сышлі мы з ім на ўдыху да пяці-сямі метраў, раўняючы ціск. Як добра!

Цяпер, гадзіны дзве пасля абеду, наш пантон падскокваў на невялічкіх грэбнях хваль, імкнучы да скальнага вострава, які ўздымаўся ўсяго на метраў пяць над паверхняй вады спакойнага сёння мора. Па заліве ляніва плылі ў бязветранай аўры парусьнікі, з уздыхам ловячы вялыя брызы ветру. На іх бартах загаралі маладыя дзяўчаты, калышучыся на лагодна ўзнятых нашым пантонам хвалях. Марскім звычаем мы віталіся ўзаемна ўзмахам рукі.

Пры астраўку мы кінулі якар на сонечным яго баку. Канат слізгануў уніз на метраў дваццаць. Мы тут жа надзелі акваланґі. Кароткае ўзгадненне спуску, інструкцыя для Паўла, які паўтараў слова ў слова, што за чым абавязкова

трэба выканаць паводле умоў тэхнікі падводнага плавання. Гэта быў яго першы спуск у сезоне.

Перакульваючыся “дэсантным” назад з борта пантона, мы апынуліся ў вадзе. Яе, здавалася, лёгкі халадок прыемна паласнуў цела. Яцэк прыхапіў з сабою самаробны бокс для камеры і чакаў нас у вадзе некалькімі метрамі ніжэй. Я падаў яму знак і ён спакойна пайшоў уніз. Мы з Паўлам сыходзілі ўздоўж якарнага каната, каб крок за крокам выканаць усе правілы апускання – раўняць ціск у масцы і вуху, дзе вада на глыбіні трох метраў павінна зраўнаважыць ціск паветра, які праз трубку Яўстахія цісне на мембрану вуха знутры. І так кожныя тры метры, пакуль арганізм не адаптуецца настолькі, што вадалаз усё гэта робіць аўтаматам. Мы сыходзілі нагамі ўніз гладка, пакуль не апынуліся на травяністым дне, метраў пяць ад высачэзнай скалы, аб якую недзе на самым версе разбіваліся вяночкам белай пены лагодныя хвалі. Глыбакамер паказаў глыбіню шаснаццаць метраў, а травяністае дно пад вострым вуглом сыходзіла ўніз. Ніжэй нас аглядаў камерны бокс Яцэк, стоячы на каленях у траве і абапіраючыся аб каменны, пакрыты флорай, блок. Яны тут выраслі з дна ажно за грань празрыстасці вады. Ён прыклікаў нас узмахам рукі. Мы плылі хвілін дзесяць менш больш на адным узроўні, заглядаючы ў травы, у якіх магла хавацца і мурэна. Яцэк паказаў, што пры сценцы сцякольца прасочваецца вада. Аднак замест таго, каб падняцца ўверх, ён, перакуліўшыся галавой уніз, апусціўся на метраў пяць ніжэй. Моцны петардавы выстрал прагучаў адтуль і было відаць, як з боксу выскачылі бурбалкі паветра. Усё! Лопнула шкельца камернага бокса. Нічога страшнага. Ёсць запасныя. Затое ведаем, што на глыбіні дваццаці сямі метраў шкло аба-вязкава не вытрымае ціску трох і сем дзесятых кг на квадратны сантыметр. Я хутка выканаў падлік 4 х 4 = 16 х 3,14 = 50 х 3,7 кг = 185 кг, вось столькі, як аказалася, давіла на наша шкельца дыяметрам у восем сантыметраў, на гэтай глыбіні.

Не сыходзячы ніжэй дваццаціпару метраў, мы пачалі акружаць падводны астравок уздож саракаградуснага схілу. Навокал нас, паміж рознай велічы базальтавых форм, парослых карычнева-фіялетавымі густымі, мяккімі-мяккімі кустамі падводных былін, снавалі на розных вышынях самыя разнастайныя рыбы, сярод якіх была і смакавітая дарада. Яцэк паказваў адной рукой, бы рэвальверам, што маўляў, на жаль, няма аружжа. Ведаў ужо, дзе трэба займацца паляваннем.

А Павел між тым збіраў ракавінкі, аднак іх было так шмат, з'яўляліся ўсё яшчэ і яшчэ прыгажэйшыя, і ён пакідаў раней знойдзеныя, браў новыя, урэшце затрымаў дзве і больш не падымаў з дна. Схіл, які дагэтуль апускаўся некуды ўніз па-за шэра-сінюю імглу, за чарговым ўзмахам ластаў набраў спаду, пад шэсцьдзесят градусаў. Наш людскі мозг адрэагаваў на гэта недарэчлівым жаданнем ўхапіцца за нешта, каб не пакаціцца ўніз, сам Бог ведае куды. Адтуль выраслалі штораз буйнейшыя формы скальных валуноў, а некаторыя выяўлялі толькі свае вяршыні, а рэшта іх знікала ў цёмна-сінім тумане непразрыстасці, якая тут жа адступала радыусам пад сорак метраў,  адкрываючы вялікую прастору – чалавек, які глядзіць на падводны свет праз маску,  бачыць усё намнога большым і значна далейшым, чым яно ёсць на самой справе. Мы павярнулі ўверх і нашым вачам адкрыўся від, быццам з казачнай краіны. Над намі, на схіле падводнага пагорка вырастаў незвычайных форм палац. Яго няспешна акружалі касякі вастрабокаў, сардзінаў, дарада ды невялічкія грамадкі каляровых рыбак і паасобныя рыбы, для якіх самота – форма самавыражэння. Здавалася, што ў незвычайны базальтавы замак можна прабрацца праз пячору-арку, за якой магло таіцца ўсё, што хочаш. Вось так! Калі недзе ёсць Нептунаў палац, то менавіта тут ён. На самым версе ён выставаў навонкі і быў абрамлены вяночкам серабрыстай пены хваль. На гэтым манументальным падводным тварэнні было столькі форм, якія нагадвалі вокны, балконы, а ўсё гэта

ў непаўторных бура-карычневых колерах, з мазкамі дапаўняльнай сівізны. Глядзіш і не ведаеш, ці гэта не фата-маргана.

Мы няспешна падымаліся ўверх, разглядаючы моўчкі незвычайны падводны феномен. Раптам я пачуў, зменены мембранай аўтамата акваланга, кліч Паўла. Я акінуў вачыма прастору за ім, нічога там грознага не было, але прыгледзеўся да дзіўна выкручанай нагі і заўважыў на лытцы спазму, вялікасцю ў настольны мячык. Ён выпусціў з джакета частку паветра, каб вада не выкідала яго ўверх, а я пачаў размасоўваць нагу і цвёрды пружыністы “мячык”. Балюча дык балюча, трэба пацярпець і ніякай панікі. Ён ажно скручваўся, калі я мяў лытку, пакуль спазм не адпусціў так раптоўна, як з’явіўся. Усё. Канец спуску. Я даў знак на выхад.

Аднекуль з’явіўся Яцэк, які, як заўжды, аддаляўся, пабачыўшы нешта заманлівае, хоць бы вялікую рыбіну. Ён убачыў, што здарылася і цяпер страхаваў наш выхад. Найлепш у такім выпадку знайсці пад вадой якарны канат і ўздоўж яго выйсці напаверх паводле ўсіх правіл. Пад канец выхаду трэба затрымацца на шасці, пасля трох метрах глыбіні на пяць хвілін для дэкампрэсіі і вываду з арганізма распушчанага ў ім азоту, каб не ўзніклі ў ім бурбалкі, якія могуць блакаваць любыя вены ці нервы, што для жыцця чалавека вельмі небяспечна, а нават забойча. Павел працаваў ластамі адной нагі, спакойна, як на занятках выконваў усе неабходныя дзеянні. Без панікі, без узбуджэння. Значыць, будзе з яго вадалаз.

Невялічкі пясчаны пляж, схаваны сярод незвычайных форм і колераў кліфу Калянш, зараз жа пасля выхаду з падводных глыбінь, расслабляў цела нагрэтым, бы сялянская печ, пяском. Цалкам, як некалі ў зімовыя марозныя дні ў роднай хаце, калі вернешся прамерзлы з вуліцы, каб як найхутчэй легчы на печы ды сагрэцца. А тут ляжыш, кайфуеш, успрымаеш усімі клеткамі цела цеплыню пяску, а

мозг твой выносіць на экран памяці падводныя вобразы ўперамежку з праекцыяй успамінаў з даўно, здавалася, забытага дзяцінства.

На пляжы, апрача нас, было дзесятка паўтара аматараў паруснага плавання, якія, з-за нястачы ветраных брызаў, рашылі паддацца пляжнаму шаленству. Вада тут не глыбокая, празрыстая і па-сапраўднаму цёплая. Жаночая частка нашай каманды, наплаваўшыся ўдосталь, пазагараўшы да чырвані, хавалася пад прыхопленым з сабой пляжным парасонам, рыхтуючы абед.

На кемпінгу душ змыў драбніцы марской солі, свежанькая кашуля і ты – як нованароджаны, з банкай піва ў руцэ, з нагамі, закінутымі на стол, разглядаеш горны хрыбет Капу Вітулю, услухоўваешся несвядома ў гоман і музыку, што прабіваюцца аднекуль знізу. З доміка, што побач, выйшла з прываблівай усмешкай на прыгожым тварыку суседачка-француженка ў надта смелай сукенцы. Ад нечаканага ўражання я ледзь не захліснуўся півам. На прывітальны мой жэст яна ветліва памахала рукой. У душы штосьці ёкнула і я паглядзеў на дзверы нашага бунгала. Пасля, калі кемпінг накрыла зорная ноч, а Месяц гуляў з Юпітэрам, хто першы дабяжыць і схаваецца за гарызонтам, я паціхеньку выклікаў набрынялую жаноцкасцю Люлю, каб супольна любавацца ноччу.

*

Яшчэ перад выездам, разглядаючы лоцыю заліва Порта, мы з Яцэкам звярнулі ўвагу на мыс Сеніна, на якім высіўся пік вышынёй у шэсцьсот дзевятнаццаць метраў. Быццам і не надта высока, аднак калі ён амаль вертыкальна вырастае з мора чырвона-карычневымі кліфамі, узнікае ўражанне ягонай магутнасці і непрыступнасці. На самай справе не так цяжка знайсці прыгоднае месца для нашай базы, дзе жаночая частка нашай каманды застанецца на ўвесь дзень.

Аказалася таксама, што паміж скалаў ёсць неглыбокая выемка, у якой плюхаецца нагрэтая сонцам вада, быццам сама прырода стварыла для гасцей, якія ўздумаюць завітаць сюды, невялічкі натуральны басейн, спалучаны вузенькімі шчылінамі з адкрытым морам. З плаваннем у ім не разгонішся, аднак плюхайся ўдосталь, заглядай праз маску ў шчыліны, у якіх і заблудзіўшуюся рыбіну можаш убачыць, і заманьваючую чырванню губу. Калі так, няма чаго баяцца, што павіслае амаль над самай галавой сонца спапеліць нашых жонак, таму што дочкі Яцэка, тут жа пасля высадкі на мыс, знайшлі парумятровай вышыні скалу і пачалі ўжо скакаць у пенлівыя хвалі. Куба з Паўлам пасля некалькіх скачкоў залезлі на значна вышэйшы, звыш дзесяцімятровы абрыў і шпурнулі адтуль у мора, узбіваючы фантан пырскаў. Радасныя крыкі, смех, вясёлая мітусня супакоілі асабліва мам, якія бачылі, што нічога дрэннага не пагражае іхнім дзеткам.

Мы з Яцэкам разглядалі карту лоцыі, выбіраючы напрамкі падводных спускаў. Марылася нам знайсці каркас якога-небудзь з соцен затопленых тут, у незлічоных праз многія стагоддзі бітвах, парусных караблёў. Тут танулі шхуны і брыгантыны пізанцаў і генуэзцаў, парусніkі маўраў і гішпанскія галеоны. Колькі мачтаў з высачэзных, зарослых ракавінамі і водарасцямі, сосен д’Аітонэ тырчыць недзе сярод падводных скал! За імі трэба сачыць, сыходзячы ў глыбіні мора пры мысе Па Скопа. Менавіта недзе тут павінны ляжаць на дне, але таксама і на схілах літаралю, надпаленыя, разбітыя гарматнымі бомбамі, заселеныя мільёнамі акамянелых мікраракавінак, караблі, а пагадзіўшаяся з лёсам каманда раўніва сцеражэ скарбы, углядаючыся ў падводную бездань пустымі ямкамі вачэй, каб напалохаць і прагнаць адсюль непажаданых гасцей. Ніводзін з іх пры жыцці не мог нават уявіць сабе, як на самай справе выглядае іхні назаўжды падводны свет. Толькі сёння, пры нашых тэхналагічных магчымасцях, можам заглянуць у таемную

прастору іх вечнага спачынку. Тым часам мы, стоячы на самай грані мыса Па Скопа, марылі аб адкрыцці касцяка старога карабля, і сама думка, а вось атрымаецца, дадавала адрэналіну нашым падводным пошукам.

Лініі на лоцыі, што акрэслівалі глыбіню, найчасцей былі накрэслены густа, што азначала стромы спуск зоны літаралю да звыш паўтаракіламетровай глыбіні. Патоплены карабель мог бы завіснуць на нейкім пераломе падводных хрыбтоў настолькі плытка, што мы змаглі б да яго дабрацца на аквалангах, запоўненых паветрам. Мой рэкорд глыбіні на паветры – шэсцьдзесят пяць метраў у Пуцкім заліве Балтыйскага мора, залічаны падчас курсу ў 81 годзе на першы клас інструктара ў пары з кадравым інструктарам Яцэкам Цэндроўскім. Яцэк – сапраўдны фанат падводнага плавання, гадоў дзесяць пазней загінуў падчас падводнай акцыі. Вечная табе памяць, браце!

Сённяшнія нормы забараняюць спуск на паветры ніжэй трыццацісямі метраў, пасля чаго вадалазам можа авалодаць эўфарыя глыбіні, што надта небяспечна для ягонага жыцця. Мой арганізм, відаць, не рэагуе на азотную эўфарыю пры спуску на паветры да зоны атруты кіслародам, якая для сярэдняга чалавека акрэслена на глыбіні васьмідзесяці метраў. Не правяраў, упірацца не буду. Проста раней не падумаў. Шкада, ідэя заманлівая.

Яцэк Важышынскі сыходзіў ля берагоў вострава Родас да глыбіні пяцідзесяці метраў. Значыць, для нас тут гэта будзе мяжа. Каб уявіць такую глыбіню, хопіць падумаць, што спуск на дно пачынаецца з сямнаццатага паверха хмарачоса. Пакуль дастаткова. А там пабачым. Пры нашай базе дно ападала пад вуглом пад сорак градусаў, калі нязначна далей згусткі ліній лоцыі сведчылі аб выразна большым схіле. Зразумела, што мы былі на вулканічнай гары, з якой, пасля выбуху, нарадзілася Корсіка.

Мы рашылі пачаць спуск і пошукі *shipwreck* у першую чаргу тут жа, з надзеяй, што ніхто іншы раней за нас сюды

не трапіў. Славянін, асабліва беларус, чалавек не хцівы, аднак прыемна падумаць, што недзе там, у затопленым врэку, ляжыць капітанская шкатулка з каштоўным багаццем. Яцэк апрануў поўны скафандр, прыладзіў да нагі вадалазны нож, пояс з дзесяццю як мінімум кілаграмамі волава, а акваланг накінуў на сябе ў вадзе. Я ныраў, як заўжды, без скафандра. У гэтай цеплыні мора ён мне непатрэбны, хоць, па праўдзе, абараняе перад ежавікамі і не дазваляе пакалечыць цела аб вострыя грані скал, што немалаважна ў водах, дзе на глыбіні 150 метраў хаваюцца акулы, гатовыя на нейронавы запах крыві, апазнаваемы імі незразумела як, са значна большай адлегласці, з’явіцца тут жа.

На кліфе, пару метраў над намі, стаялі і жонкі, і дзеці. Вецер, які час ад часу моцнымі парывамі хапаў пырскі хваль, драбіў іх на мікракропелькі і пырскаў ім у твары. Мы паказалі сваім знак О.К. і пайшлі пад ваду. Спачатку над нашымі галовамі клубіліся букеты бурбалак і з нашых аквалангаў, і з разбіваючыхся аб скалы хваль, аднак з кожнай хвілінай спуску ўніз агортваў нас ўсё большы спакой і цішыня глыбіні. Светла-зялёныя плямы з кожным метрам ўніз набіралі вастрыні і неўзабаве аказалася, што гэта вяршыні базальтавых блокаў, аклееных зверху вапневымі, даўным-даўно змярцвелымі ракавінамі. Іх незвычайныя формы вырасталі з зарослага падводнай травой схілу гары, паміж якой усюды яснелі крэйдавым колерам пустыя ракавіны. Дно знікала ў цёмнай сіняве недзе далёка ўнізе, а на розных узроўнях няспешна праплывалі шматформныя рыбы, паасобна або касякамі. Сплываць уніз, бы падводны планёр, амаль без руху ластаў, у клёшавай прасторы, адкрываючай з кожным метрам ўсё новыя падводныя кшталты зменлівага пейзажу, вось гэта тое сапраўднае нешта. Нешта насычанае адрэналінам ад магчымасці кантакту з нечым неўявімым, а таксама пагрозлівым, у прасторы, якая выклікае і захапленне, і магчымасць гвалтоўнага стрэсу, які здольны насыціць цябе новай порцыяй адрэ-

наліну, каб ты мог захаваць спакойную ўпэўненасць і не кінуцца ў паніку. Вось тады былі б табе канцы – не кіношныя, а сапрыўдныя.

Недзе з левага боку, там, дзе праплываў Яцэк, пару паверхаў над ім, стаялі зграяй серабрыстыя, шчукападобныя падводныя разбойнікі, баракуды. Шматлікія рыбкі і рыбы апускаліся ўніз, пад нас, шукаючы паратунку. Яцэк павярнуўся ў мой бок, каб упэўніцца, ці я бачу небяспеку. Я паказаў знак. Мы затрымаліся, прыглядаючыся да неспадзяваных спадарожнікаў. Баракуды, пастаяўшы цалкам нерухома пару хвілін, няспешна адплылі па-за мяжу празрыстасці і зніклі ў неабсяжнай прасторы мора, не шукаючы з намі зачэпкі. Мы апынуліся на глыбіні звыш сарака метраў і павярнулі направа, праплываючы паміж высокіх базальтавых брыл, уздоўж схілу гары, з якога над вадой вырастаў пламяністы шэльф Корсікі. Некаторыя скальныя формы, бачаныя на мяжы празрыстасці і сапраўды напаміналі карабельныя сілуэты, і тады зноў узрываўся адрэналін, які тут жа гас, калі аказвалася, што гэта толькі прывід. Не болей пяці хвілін перашукоўвалі мы прастору на звыш саракамятровай глыбіні. Нідзе, на жаль, не было хоць бы абломкаў караблёў. Затое падводны свет гэтага закутка зямнога шару ў любога чалавека здольны выклікаць захапленне. Каб не рабіць дэкампрэсійных прыпынкаў, мы няспешна ўсплывалі ўздоўж адхону, які распасціраўся на сотню метраў то ў адзін, то ў другі бок.

Хлопцы дапамаглі нам падняць на скалы аквалангі, дзе наш невялічкі кампрэсар у пары дзесяткаў метраў ад нашага абозу надзьме іх на працягу дзвюх гадзін.

Пасля двухгадзіннага адпачынку мы сыдзем у нетры мора са сваімі сынамі. Ужо ведаем, што бушуе тут зграя баракуд-разбойнікаў, а ніхто не даў нам гарантыі, што не напорамся і на акул. На самай справе, зусім нічога страшнага, калі гэта не будзе пражора, белая акула-людаед, сапраўдны падводны кілер. Гэта праўда, што чалавечае цела

не з’яўляецца смачнай стравай у іхнім спіску смакаў і перш за ўсё таму, што вялікую долю ў ім займаюць цвёрдыя і цяжкатраўныя косці, але гэта не рашаючы фактар пры выбары ахвяры. Націск пашчы акулы – да 1800 кг/см, а чалавека ў сярэднім толькі 73кг/см. Калі б змаганне ішло па прынцыпу, хто каго мацней кусне, то лепш не рызыкаваць, тым болей што пражорлівая белая акула не смачная для чалавека. Яна аддае мачу праз мышцы і скуру і таму смачна з'есці яе вы можаце пажадаць найлепш свайму ворагу .

Расказвалі мы пра гэта найперш  нашым сынам, якія ў хуткім часе нырнуць туды, дзе магчыма непажаданая сустрэча з гэтымі недружалюбнымі істотамі. Сядзелі мы за абедам, раскашуючыся заваранай на базальтавым мысе кавай. Хлопцы, калі нават і напалохаліся, стараліся ніяк гэтага не паказаць і толькі надта звонкі смех, які ўзрываўся час ад часу, даказваў, што здаровыя эмоцыі запалонілі іх цалкам.

– Не перажывайце, мужыкі! – сказаў нарэшце Яцэк. – Пражорлівая акула ў Міжземным моры атакавала чалавека дасюль не болей сарака разоў, што афіцыйна пацверджана. Памножце гэта на чатыры, то і так нямнога. Так што не спадзявайцеся. Праўдападабенства пакусацца з ёю ў вас вельмі мізэрнае. Прытым не забывайце, што ў вас аружжа не горшае за яе зяпу. Нож вадалазны – гэта не жарт. Самае балючае месца ў акулы – нос. Калі толькі не пабаішся і заваліш ёй напрамкі кулаком па ім – павярне, адпусціць. Або адразу валі нажом у нос. Ясна!?

Сыны нашы адразу адгукнуліся – «Ясна!», але было яно нейкае надрыўнае і ніяк не скажаш, што бадзёрае.

Я расказаў для той жа бадзёрасці, як змагаюцца з акуламі-людаедамі палінезійцы. Яны рыхтуюць з завостранага з абодвух бакоў бамбука інструмент, падобны на гантэлі, які рукою ўпіхваюць у раззяўленую для атакі пашчу акулы і калі яна заціскае сківіцы, вострыя канцы прабіваюць іх і зверху і знізу, затрымоўваючыся на рубцах, якія абараняюць

руку. Справа аднак у тым, каб не пабаяцца ўпіхнуць руку у забойчыя ціскі. Аказваецца, можна, хоць я сабе не надта ўяўляю гэта...

– І яшчэ адно, – дакінуў Яцэк, – больш шансаў атакаваць вас у мурэны, таму што яна хаваецца або ў высокіх травах, паміж караламі гаргоніяў, або ў скальных шчылінах. Калі ёй падасца, што вы ёй пагражаеце, укусіць. А зубы мае бы скальпелі, пашча шырокая, а раны гояцца вельмі доўга. Яны глыбокія, парваныя скура і тканкі цела  нават калі загояцца, месца тое астаецца пазначана цвёрдымі рубцамі. Дадам, што калі мурэна ўкусіць, то не адпускае. Стараецца ўцягнуць ахвяру ў сваю шчыліну. Заўзятая. У вадалаза шанс у тым, што ён дыхае з акваланга і не павінен думаць, як вырвацца на паверхню, а як адбіцца ад яе нажом, які заўсёды пры ім. Пад вадой мы павінны быць, як лётчыкі знішчальнікаў, якія бесперапынна люструюць усю прастору навокал сябе. Цяпер вазьміце ў рукі атлас рыб і пазнаёмцеся з выглядам драпежнікаў. Праз гадзіны паўтары парамі сыходзім пад воду.

– А мы з Эляй нашых сыноў, калі так, не адпусцім у ваду! Хай плюхаюцца з намі. Вада чысценькая, цёплая і прыемная, – сказала на поўным сур’ёзе Мірка.

Усе мы грымнулі смехам. Гэтага якраз і трэба было, каб расслабіць напружаную атмасферу.

Час ішоў няўмольна, нягледзячы на тое, што прыемна было сядзець у мягкім палатняным крэсле, на самай вастрыні мыса Па Скопа ў падножжа піка Серына, адкуль даскапала відаць было супрацьлеглы бераг, што пераліваўся здалёк палітрай фіялетавай чырвані з цёмна-сінімі ценямі фантазійных форм кліфа Калянш. Бяры палатно, кусок фанернай дошкі, на якую выцісні з цюбікаў усемагчымыя колеры і малюй – пальцамі альбо хоць бы сталовым нажом, як шпатэлем, або пэндзлікамі, спалучаючы ў адно непадзельнае колеры вады, горыстага кліфу і спякотнага неба. Любата!

– Народ! Падымайся! – скамандаваў Яцэк, які па натуры быў чалавекам валевым. Ёсць менавіта людзі, якія па прыродзе стаюцца рулявымі, натуральнымі шэфамі, без ценю сумніву бяруць справы ў свае рукі. І Яцэк быў такім чалавекам. А гэта адпавядала нам усім, таму што арганізаваць, хоць бы нашу маленькую групку, ментальна розную, у адзін, калі трэба, арганізм, каб без мітусні і непатрэбнай страты часу выканаць, што трэба, павінен нехта адзін. І гэта быў ён, Яцэк, чалавек рашучы, амаль двухметровы здаравяка.

Мы рыхталіся да спуску ў мора. Павел паглядаў на Кубу, які апранаў поўны скафандр, што аддзеліць ягонае цела ад вады сямімiліметровай пенай, абцягнутай з абодвух бакоў моцным джэрсэем, а пасля прыпаясваў да нагі салідны нож  з вострымі рубцамі пілы і пачаў рыхтаваць акваланг. Сам Павел апране акваланг на маячку, ласты на цалкам голыя ногі, а невялікі нож прыпне да таксама голай рукі. Так зручней яго выняць, калі раптам спатрэбіцца. Тым не менш, пасля пачутага нейкая некамфортнасць паявілася на яго твары. Я стукнуў яго па плячы:

– Ну, як там, мужык!? Гатоў пазмагацца з баракудамі!? Хоць бы адну нам на вячэру. Ніколі не еў, пара пакаштаваць.

– Гатоў, бацька. Нож навостраны.

– Глядзі, маці! Яшчэ твой сын уручную прыкончыць баракуду, а мы занясем гэта ў кнігу Гінеса.

– Не кажы, а то ўжо бярэ мяне зайздрасць, – сказаў Яцэк, які ўжо быў падрыхтаваны да скачка ў ваду. – Калі гатовыя, то на коні! – скамандаваў і, закрываючы маску рукамі, каб не сарвала яе з твару сіла вады, паляцеў з паруметровай скалы ў хвалі. А зараз за ім мы па чарзе, каб не скочыць адзін аднаму на галаву. Спачатку нічога не было бачна, таму што мільёны бурбалак, прыхопленых з паверхні мора на глыбіню некалькіх метраў, засланілі відочнасць. Мы скакалі ў поўнай экіпіроўцы, пасля чаго дапамагалі сынам надзець падрыхтаваныя на пантоннай лодцы аквалангі.

Апынуўшыся ўсе разам пад вадою, выраўнівалі ціск у джакетах, вушах і масках і парамі пачалі сплываць уніз паміж вырастаючых базальтавых скал, парослых каляровымі народамі былін, уважліва разглядаючыся навокал. Дно было ўсеяна ракавінамі, а большыя і прыгажэйшыя заманьвалі зрок, быццам прасіліся ўзяць іх. Не цяпер, не на самым пачатку нырання. Кругом клубіліся рыбы.

Неяк, пасля мо дзесяці хвілін, мы настолькі адплылі адны ад другіх, што, разглянуўшыся навокал, я нідзе не ўбачыў Яцэка з Кубам. А здавалася, ён толькі што быў крыху ніжэй, метраў дваццаць з левага боку і да граніцы бачнасці яшчэ было далёка. Але гэта быў толькі аптычны прыкол. Хапіла пару ўзмахаў ластаў, каб, зрабіўшы няпоўны дзесятак метраў, знікнуць за занавесай непразрыстай сінявы. А мы луналі ўздоўж манументальнай сцяны на глыбіні дваццаці метраў, якая апускалася ўніз цалкам вертыкальна, каб пару ярусаў пад намі спалучыцца з пахіласцю, парослай травамі і імхамі. Якраз такія месцы вельмі даспадобы акулам, калі яны рашаюцца ўсплыць са звыш стометровых глыбінь, у якіх бавяць большасць часу. Тут шукаюць здабычы, сюды заманьваюць іх праменні сонца, якія, іграючы металічнымі блікамі на лусцы белых рыб, прываблівають іх, спакушаючы на атаку. Між іншым таму вадалазы ці сурферы не павінны апранаць надта каляровых і бліскучых скафандраў, хоць, з другога боку, жоўты колер відзён здалёк і аблягчае пошук пры выратавальных акцыях.

Падводная панарама магла захапіць самага абыякавага да найменшай прыгажосці чалавека. Прастора, што дынамічна змянялася з кожным узмахам ластаў, напаўняла цела і душу пачуццём манументальнай велічы, быццам ты раптам апынуўся ў незямной прыгажосці таямнічага замка, які адкрываў тваім вачам і верхнюю перспектыву, завершаную пераліўнымі хвалямі зменлівай, іграючай праменнямі столі, па-за якой хаваліся гіганцкія сцены, і ніжнюю, адкуль выраслі, быццам алтары храма, шматгранныя скальныя

тварэнні. На моцна перахіленым дне вялікімі калоніямі-плямамі раслі травы, над якімі снавалася на розных паверхах незлічальная колькасць рыб, а ўнізе – лангусты і крабы, і ўсюдыісныя ежавікі.

Мы праплылі з паўсотні метраў, калі раптам цалкам абарвалася дно, быццам хтосьці абрэзаў яго гіганцкім нажом, роўна-роўна. Ледзь маячыў ягоны другі бераг, а непрывыклыя да ўбачанай перспектывы вочы не адразу ўлавілі вобраз дна каньёна. Уражанне было настолькі нечаканае, што не толькі Павел, які некалі пару тыдняў плаваў са мною пры Трэміці, архіпелагу Святых Астравоў, але і я, было не было, дасведчаны вадалаз-інструктар, які бачыў не адно падводнае тварэнне, затрымаўся над бяздоннем, як на тармазах. Мы былі на глыбіні дваццаці шасці метраў. Асвоіўшыся з адкрыўшайся прасторай, мы няспешна пачалі апускацца ў напрамку дна каньёна. З ягоных сцен выраcталі пышныя грэбні гаргоній, а ніжэй галінкі чырвоных каралаў, якія заманьвалі сваёй дзівоснасцю і прымушалі затрымацца, каб палюбавацца імі. Ажно рука сама цягнулася, каб сарваць хоць адзін і падараваць Люлі. Аднак карал – арганізм жывы. Сарвеш, вынясеш на паверхню – памрэ, страціць і колер і прыгажосць. Пад неглыбокімі аркамі свяціліся жывой аранжавай чырванню пальцы марскіх губак. Паўсюль мноства ракавінак, чорна-фіялетавых ежавікоў, мідзій, чырвоных марскіх зорак і рыб, якія з саноўнай зацікаўленасцю прыглядаліся да няпрошаных парушальнікаў мяжы іхняга дому. Са скальных шчылін час ад часу назірала за намі вока васьмінога. Плыві, любуйся і адначасова сачы за прасторай, каб радасць не абярнулася жахам. Недзе там, па-за межамі празрыстасці, кружаць кілеры глыбінь. Яны ведаюць, што ты тут, хоць ты іх увогуле не бачыш.

Усё. Час і тут немагчыма затрымаць. Ён бяжыць супраць твайго жадання, супраць тваёй волі, якая для яго абсалютна нічога не значыць. Яму немагчыма загадаць:

“Затрымайся, пачакай крыху! Тут такая прыгажосць, такі цуд!” А ён, непадкантрольны абсалютна ніякай зямной сіле, спакойна і раўнамерна пералівае секунды на тваім падводным цыферблаце, і калі б ты раптам зняў з рукі і выкінуў гадзіннік, гэта і так не затрымала б часу. Значыць, пара падымацца ўверх. Найлепш не вертыкальна, а ўздоўж адхону да падводнай часткі сцяны кліфу і, памятаючы сяк-так месца ўваходу ў ваду, старацца пад яе люстрам патрапіць там.

Мы даплылі да берага каньёна вышэй месца ўваходу ў яго і ўсплылі, дзе гайдаліся лугі траў. Раптам, цалкам насупраць нас, з’явілася па-над вечна ўсхваляванымі былінамі мурэна, абапіраючыся сваім пакрытым плямамі хвастом ды выгнуўшыся ў дугу, вышчэрыла зяпу, поўную вострых зубоў. Вялікая, жоўтабурая, з халоднымі маленькімі круглымі вачыма. Мы рукамі затармазілі свой рух і, падняўшыся метра паўтара ўверх, спыніліся ў нерухомасці. Стараліся не дражніць вужападобную гадзюку, прыглядаючыся да падводнага разбойніка, які не хацеў нас прапусціць, выказваючы сваю рашучасць бою. Павел нечакана выняў і ўжо трымаў у руцэ нож. Ніхто з нас не паварушыўся – ні мы, ні яна. Стаялі насупраць амаль на адным ўзроўні, хоць яна, абапіраючыся хвастом аб дно, а мы – па-над схілам, крыху вышэй за яе. Падумаць, якая напорыстая гадзюка! Не прапусціць і ўсё! Правакаваць яе ці палохаць няма ніякага сэнсу. Не ўгадаеш, што зробіць. Не, дык не! Я рашыў абмінуць яе, таму паказаў Паўлу напрамак направа. Мы павольна падняліся яшчэ метры два ўверх і няспешна пачалі аддаляцца ад вярзілы, якая заставалася на месцы, выкручваючы цела ў наш бок. Неўзабаве знікла ад нас, закрытая сінявой непразрыстасці. Калі даплывалі мы да падножжа нашага мыса, у нас заставаўся яшчэ рэзерв на дэкампрэсію і бяспечны выхад. Амаль пяцьдзесят хвілін пад вадой плюс дэкампрэсія. Нармальна. Значыць, Павел дыхае спакойна.

Яцэк з Кубам сустрэлі пад вадой прыдонную раю і вялікіх у дзесяткі два кілаграм марскіх акунёў. Як жа смакуе на распаленай сонцам скале схалоджанае піва! Ці хто ведае!? Калі так, віншую. Пры ім прыемна пагутарыць аб бачаным і толькі што перажытым. Для нашых сыноў – кока кола. На іншае зарана.

Вярталіся мы ў вусце ракі Порта, разглядаючы з сярэдзіны горную панараму з высачэзнымі вяршынямі, якія выраcталі над чырванню ніжэйшых скальных хрыбтоў. Праплыць трэба было адзінаццаць кіламетраў па лагоднай гладзі мора. Раптам лопнуў кіль пантоннай лодкі, абцяжараны да немагчымасці намі, аквалангамі ды ўсялякай патрэбшчынай. Усё! Далей – на двух кароткіх вёслах. Дай Божа сілы!

Быў позні вечар, калі мы, усеўшыся за сталом пры нашым бунгала, са смакам змяталі з талерак спецыі нашай кухні. Затым – успаміны дня і эпізоды ранейшых экспедыцый. А ўсё гэта пры шкляначцы віскі, пад зорным небам Корсікі, у падножжа Монтэ Цінта і прыгажуна Капу Вітулю, над якім нястомна змагаўся са сваім вечным сапернікам Юпітэрам Месяц, што астаўся ў адзіноце пасля гібелі ягоных сясцёр – Лелі сорак тысяч гадоў таму і Фатты, дванаццаць тысяч сямсот чатырнаццаць гадоў назад. Фатальна, хоць для Месяца і не зусім, таму што ён надалей кружыць вакол нашай зямлі. Самотнай.

Адплываў у прастору ўспамінаў восьмы дзень экспедыцыі. Пара зведаць Аяча, сталіцу Корсікі.

*

Выехалі мы з кемпінга ранкам. Вузенькая і крутая тут дарога адкрывала казачныя пейзажы заліва Порта, а хутка, пасля дзесятка паўтары вострых віражоў з жывапіснымі экспазіцыямі, якія вызвалялі адрэналін, паказаўся Калянш у поўнай сваёй красе. Знайшоўшы мікрапаркінг, дзе да абрыву

прытуліўся кіоск з памяткавымі паштоўкамі, якія можна прама адсюль адправіць блізкім, мы затрымаліся, каб нагледзецца зверху на кліф, што занесены ў спісак цудаў прыроды. Сапраўды! Уражанне боскае, тым болей што мы яго ўжо ведалі з самага нізу, а нават – ад самага дна.

Пакарыстаўшыся нагодай, мы напісалі блізкім і сябрам паштоўкі. Я адправіў перш за ўсё маці, братам і сыну Пятру, які застаўся, каб прымаць і адпраўляць прама на фабрыкі імпартныя дошкі. Мы, што праўда, сазваньваліся з ім штодзённа па тэлефоне пры адміністрацыі кемпінга, рашаючы бягучыя справы фірмы, а пры нагодзе я расказваў яму пра бачанае і перажытае ў водах Порта. Хай цяпер пагляне на Калянш, зняты з самага заліва.

У хуткім часе мы апынуліся ў П'яна, адкуль вельмі выразна, у поўнай велічы, паказаўся нам з другога боку горны хрыбет з пікам Капу Вітулю, над якім ноч у ноч гуляў Месяц. Лагодная дарога вяла далей у Каргэзэ, адзіную грэцкую мясціну на востраве. Яны тут ужо дзевяцьсот гадоў. Засталася ўсяго іх трыста вернікаў грэчаскай праваслаўнай царквы, як некалі ваяроў пад Тэрмапіламі. Яны моляцца ў адзінай царкве, пабудаванай у 1852 годзе на месцы меншай. Іконы сюды былі прывезены з Грэцыі ў 1676 годзе. Самая святейшая з іх – з XII стагоддзя, з выявай Маці Божай, з маленькім Ісусам і святымі – Спірыдонам і Мікалаем. Усе грэкі належаць тут да брацтва св. Спірыдона, а з іконай раз у год, 12 снежня, праводзіцца хрэстная працэсія ў горадзе, што налічвае амаль адну тысячу жыхароў. Каб не Люля, мы пра гэта не ведалі б і не затрымаліся б. Яна ўсюды, дзе б мы ні былі, загадзя чытае турдаведнікі і вышуквае праваслаўныя цэрквы, і мы заходзім у іх памаліцца і паставіць свечкі. А сама яна каталічка.

Цікава, што грэкі перанеслі з Радзімы свой звычай праводзіць вольны час ў кафейках, прама на вуліцы, пры лампачцы віна. Вечнае свята душы!

А зараз жа за гарадком вачам паказаўся шырокі заліў

Гольф дэ Сагонэ. Мы затрымаліся на пару хвілін на абочыне палюбавацца перспектывай. Адсюль усяго сто дзесяць кіламетраў да Аяча, сталіцы Корсікі.

І вось яно! Мы заехалі на паркінг пры яхтавым порце. Чаго тут толькі ні было! Парусікі ўсіх класаў. Стаяла амаль саракаградусная спякота. Як для нас, людзей Поўначы, было б не вытрымаць, каб мы за апошнія дні да яе не прывыклі, хоць тут, у цэнтры горада быць ставалася невыносным. Мы стараліся ісці па заценёным баку вуліцы. Турыстаў – зборышча з усяго свету. Нічога не скажаш. Прыемна паўглядацца ў прыгожыя тварыкі і не менш прыемна прыгледзецца да скупа апранутых фігурак прыгажунь, якіх сярод натоўпу тут якраз доўга шукаць не трэба. Яны проста ёсць і снуюць паміж шматлікімі крамамі, буцікамі, кафейкамі і рэстаранамі.

Цэнтр горада і само Аяча не мае хмарачосаў, яно пабудавана ў класічным ці сецесійным карсіканскім стылі, з мноствам квецця, зелені, пальм. Заснаванае генуэзцамі ў 1492 годзе, на самой справе яно разбудоўвалася навокал вельмі цікавай шаснаццацівяковай цытадэлі. Жыхары вельмі прыветлівыя, відавочна, каб турысты прыязджалі сюды і пакідалі свае грошы. Мы таксама пасля паўтарагадзіннага шпацыру знайшлі столік прама на тратуары пад палатняным дашком, каб паабедаць і пры нагодзе папрыглядацца да натоўпу, які запаўняў усю шырыню пасажу для пешаходаў. Нас, мужыкоў, цікавіў прыгажэйшы пол. Павел спачатку здымаў бог ведае што, а пасля я, узяўшы камеру ў свае рукі, стараўся дапоўніць кадры з экскурсіі прыгажэйшымі мадэлямі карсіканак ці турыстак. Адна з іх, з'яўляючыся спалучэннем крыві маўраў з еўрапейскаю, сталася хітам мужкой часткі нашай каманды. Не ведаючы пра нашу цікаўнасць, круцілася пры выставачным вакне буціка, нешта разглядала, а ўрэшце зайшла ўнутр. Мы не дачакаліся выхаду яе адтуль. Нам прынеслі страву. Я заказаў сабе сардыны з грыля з салатам мікс-памідоры, сыр мацарэлла, масліны і яшчэ што-

сьці ды піва з бочкі. Усё як трэба і смачна. Хлопцы заказалі піцу – сапраўдную, карсіканскую. Жанчыны – нешта мудрагелістае. Усе былі задаволены.

Блукаючы па горадзе, мы разлічвалі, што знойдзем дом самага знакамітага ўраджэнца Аячу, Набуло Банапарта, вядомага пад імем Напалеон. Аднак абед і пачуццё поўнай расслабленасці настолькі нас разняволілі, што мы выракліся ідэі доўгага шпацыру ўверх Аяча, тым болей што карсіканцы, якіх мы распытвалі, дзе дом Напалеона, махалі рукой у нейкім напрамку і бесцырымонна давалі зразумець, што пашанай у карэнных жыхароў Аячу і, мабыць, Корсікі Банапарт не цешыцца. Тым не менш, многія месцы ў горадзе названы яго імем і яму прысвечаны. Але гэта ўжо палітыка. Цікава менавіта тое, што карсіканцы не могуць яму забыць здачы іхняга вострава французам. Акупацыя трывае па сённяшні дзень, аднак сепаратысты з гэтым ніяк не пагадзіліся і таму час ад часу штосьці на Корсіцы бухне, а калектыў Іль Муўрыё спявае пра свабоду.

Не зразумець мне, чаму французы 14 ліпеня выходзяць на Элісейскія палі і святкуюць плён першай масонскай рэвалюцыі. Не зразумець мне таксама, за што французы ідалапаклоннічаюць перад гэтым невысокім мясніком з Корсікі, які выразаў, каб насыціць сваю неўтаймаваную хцівасць і пыху, звыш палавіны мужчынскай папуляцыі Францыі і кінуў народы Еўропы ў хаос пажараў, бітваў, марадзёрства, гвалтаў, смерці соцен тысяч, калі не мільёнаў звычайных людзей. Пасля Ватэрло ў Францыі не было ўжо мужчын, здольных трымаць у руках трыкалор.

Самае цікавае тое, што не толькі французы, але таксама іншыя народы пакланяюцца памяці душагуба. Яны гатовы былі памерці за яго тады, як і сёння. Калі б ён раптам уваскрос, кінуліся б натоўпам пад ягоныя сцягі, але гэта любоў без узаемнасці. Ён бесцырымонна браў тое, чаго яму надта хацелася. Досыць успомніць гісторыю ягонага рамана з пані Валеўскай, замужняй жанчынай. Колькі ж было

напісана шматлікіх твораў, у якіх мастацкія вобразы каханкаў і шалёнае каханне, насычанае рамантыкай, уражваюць сваёй прыгажосцю! Колькі ж знятых кінастужак, сабраных і захаваных музейных памятак. Гэта цэлы культурны пласт ў гісторыі краіны.

А мне неяк, калі задумаешся над гэтым агульна-нацыянальным шаленствам, цікава паразважаць, перш за ўсё пра шамбеляна (камергера) Анастазія Валеўскага, які жаніўся на паўвека маладзейшай за яго Марыі, праўдападобна, каб ратаваць яе гонар. Яна, вярнуўшыся з Італіі, чакала дзіця ад Аркадзія Суворава, унука слаўнага рускага фельдмаршала. Нарадзіла сына Антонія Васілія Рудольфа праз шэсць месяцаў пасля шлюбу з тым жа шамбелянам. Цікава, чыя была задума выдаць цяжарную Марыю за яго, арыстакратычнага чыноўніка самага высокага рангу, каб ратаваць гонар. Шамбелянаў у Рэчыпаспалітай абодвух народаў было ўсяго васямнаццаць. Ці пан Анастазій увогуле ведаў пра цяжарнасць сваёй нарачонай? А вось раман з Напалеонам схаваць было немагчыма. Не сотні, а тысячы знатных персон таго часу намаўлялі Марыю Валеўскую, каб стала метрэсай Напалеона. Найболей пастараўся князь Юзаф Панятоўскі. Менавіта ён паставіў кропку над “і”. Паглыбляючыся ў гісторыю Валеўскіх, міжволі ўзнікне пытанне – што клубілася ў галаве пана шамбеляна або ў душы, калі ён ведаў, што недзе там, за тымі дзвярыма, зачыніўся Банапарт з ягонай прыгожай жонкай. Якія фантаны зайздрасці ўскіпалі ў грудзях, якія ярасныя парывы гневу, а мо і нянавісці!? А, можа, праз ўсё гэта прабіваліся і выплескі гонару, што якраз ягоную жонку, пані Валеўскую, у гэты момант “практыкуе” сам Імператар!? Не зразумець мне чалавечай душы.

Набуло Банапарт з Аяча і ягоны род з горыстага вострава Корсіка па мужчынскай лініі ніяк не мог мерыцца з родам Валеўскіх.

Вярталіся мы з Аяча насычаныя вобразамі турыстычнай мітусні народаў зямнога шара, смакам карсіканскай кухні,

узбагачаныя дзявочай прываблівасцю паўднёвых еўрапеек, якіх паўнюсенька, не ў такім ужо ж вялікім горадзе. Ды й сам горад мае нейкі ўласны магніт, які дазваляе не спяшацца нікуды, а проста адпачываць, без жадання вырвацца адсюль навонкі.

А вось Калянш, куды мы даехалі пры захадзе сонца, чарговы раз ашаламіў нас сваёй непаўторнай каларыстыкай. Колеры Ра-дугі, што залівалі з самага гарызонту ягоныя ірацыянальна павыкручваныя формы, у якіх можаш уявіць-убачыць і знаёмы твар, і арла, і сабаку, і чарапаху, і квецісты сад, калі промні асвятляюць мільёны ярка-чырвона-фіялетавых вяршынак на гранях скал.

Да позняй ночы чаркай белай, прыхопленай з Аяча, мы ўпрыгожвалі ўражанні мінулага дня і вялі дыспуты перад нашым бунгала, ахутаныя аўрай карсіканскага раю. Цікава, што мой сын падтрымаў погляд Яцэка і на значэнне самога Напалеона і што змены ў свеце ідуць у добрым напрамку. Што ж, не цяжка паддацца новым тэхналогіям кіравання эмоцыямі і поглядамі маладога пакалення, якое заўтра будзе спелым грамадствам. Мы, бацькі, не маем часу на размовы і абмен думкамі з ім. Так было, ёсць і, відаць, будзе. І ты нічога не можаш зрабіць. Затое іхнія дзеці або ўнукі, насыціўшыся двайнымі стандартамі, даволі хутка, прачнуцца. Трэба толькі спадзявацца, што сатанінскае закуліссе не здолее змалоць у жорнах сваёй пражэрлівасці чалавецтва, скарачаючы яго да аднаго мільярда, у якім сямсотміліённая большасць будзе джэндэрным натоўпам рабоў.

*

А ўсё ж такі мы прачнуліся даволі рана. Наладка і мантаж паломанага кіля – справа няпростая. Пакруціліся мы крыху па эўкаліптавым гаі, шукаючы зацененага вольнага месца, каб “Франтьера” не пераўтварылася ў саўну. Успомнілася, як яшчэ пры нябожцы камуне, мы, на той раз з сынам

Пятром (Паўла бяспека затрымала як заложніка, каб мы не асталіся на Захадзе) вырваліся таксама з Важышынскімі за Барселону на Эль Тора Брава, дзе два тыдні рукамі лавілі васьміногаў у самым абц і ў аквалангах, прадаючы іх прама на пляжы па васемсот пэсетас за кілаграм (сем долараў – зарплата настаўніка ў той час была долараў сорак), што дало нам магчымасць пабадзяцца звыш месяца па Іспаніі, а пасля па Францыі, паплаваць па Біскайскім заліве і вярнуцца дахаты праз Парыж з добрым грашом у кішэні. Менавіта ў Сарагосе мая “Сырэнка” нагрэляся так, што немагчыма было даткнуцца да бляхі, а астаўленыя за шыбай магнітафонныя касеты выгнуліся ў абаранкі. Яркае паўднёвае сонца праз пару гадзін награвае машыну, бы баба хлебную печ у сцюдзёную зіму.

Мы зайшлі ў міні-порт.

– Куба, лезь у пантон і паглянь, чаму ён танцуе, бы сабака на прывязі! – скамандаваў Яцэк.

Куба тут жа прыцягнуў пантон да берага, ускочыў у яго і выцягнуў пусты трос. Якар быў ад яго адрэзаны злачынцамі і знік. Рэчаіснаць аказалася нейкай недарэчнай. Няўжо і тут крадуць!? Аказваецца – крадуць! Камусьці, у каго клейкія рукі, спатрэбіўся. Без яго немагчыма пакінуць пантон у прыбярэжных водах і сыйсці ўніз. Прышлося пазычыць у хлапцоў з вадалазнай базы насупраць. Яны зарабляюць на пачаткоўцах, вадалазах-турыстах, якіх забіраюць з сабой на глыбіню найчасцей трынаццаці метраў, у цікавыя месцы, што і так гарантуе ім процьму шокавых перажыванняў, каб маглі захварэць “Вялікім блакітам” і папоўніць брацтва фанатаў падводнага свету. Клубы таксама за дванаццаць долараў (пра еўра тады яшчэ ніхто не чуў) могуць напампаваць паветрам твой акваланг. Бізнес ёсць бізнес. А ў нас свой кампрэсар.

Толькі ў поўдзень здолелі мы выплыць на воды заліва.

Зноў скачок на адзінаццаць кіламетраў праз воды заліва, дзе пад табой паўтары тысячы метраў вады, а на дне з

неаспрэчнай доляй праўдападабенства і генуэзкія галеоны і хуткія пірацкія шхуны маўраў і пізанцаў, гішпанцаў і, мабыць, грэкаў і намнога пазнейшыя жалезныя ўжо, плаваючыя, монстры, гатовыя адным залпам разарваць на кускі мястэчка Порта.

Неба было незвычайна празрыстым, сінім-сінім, без адзінага воблачка, хоць вецер час ад часу шугаў востраю брызаю, насычанаю мікрадрабінкамі вады, падымаючы штораз вышэйшыя хвалі. Наш перагружаны пантон, з узмоцненым стальнымі профілямі кілем, цяжка падымаўся на пакуль што невысокія грэбні хваль, пакідаючы за сабой і мястэчка Порта і пляж з напаўголымі фанатамі сонечнага загару і прыбярэжнага купання, і пік Капу Вітулю, які з кожнай сотняй метраў штораз вышэй вырастаў над ніжэйшым падгор’ем, выяўляючы нечуванай прыгажосці вертыкальныя каміны чырвона-фіялетавых скал. Павел здымаў на відэакамеру кароценькія сюжэты, ставіў мамам пытанні з тытанікавым кантэкстам, аднак яны, прывыклыя ўжо да болей экстрэмальных эпізодаў супольных пантонных падарожжаў, трымалі фасон.

Неяк падчас штармавога ветру пры звышпяціметровых хвалях плылі мы гадоў некалькі таму дваццаць пяць кіламетраў праз адкрытае мора на самы вялікі востраў архіпелагу Трэміці – Сан Нікалё. Італьянцы, калі мы спускалі на прадштармавыя хвалі пантон, хапаліся за галаву і паўтаралі з паўднёвым пафасным недаверам:

– О, мамма мія! Бамбіні!

А нашы бамбіні плавалі і пад вадой, і на вадзе ў абц і аквалангах, а мамы ў выратавальных капоках адчувалі сябе спакойна. Факт, ад высокаамплітуднага калыхання дзяліліся мы з Нептунавым дваром сваім снеданнем. Але ж гэта справа натуральная, цалкам незалежная ад волі чалавека. Калі мы вярнуліся на змярканні, тыя ж італьянцы не маглі паверыць, што мы жывыя. Дзівакі! Адкуль ім ведаць славянскую душу...

На наш мыс Па Скопа, стоячы на падводнай полцы, мы з Яцэкам падавалі спачатку нашых дам, якіх зверху ўцягвалі за руку Куба з Паўлам, затым  кантэйнер з ежай і напіткамі ды ўсё астатняе, патрэбнае для нашай базы на цэлы дзень, і неадступных “арлекінаў”, якімі зачытваліся жанчыны, пра цудоўных каханкаў, раўнівых мужоў і ведзьмападобных цёшчаў, калі мы дзесяткі метраў пад вадой. А там – што!? Лепш не рызыкаваць, пытаючы зачытаную да непрытомнасці жонку, што чуваць у кахася, каб не нарвацца на марозячы цябе позірк і ядавітае “Spadaj!”. З супергероямі “арлекінаў” ты, браце, прайграны на ўсіх франтах.

Магда з Мартай памагалі абсталёўваць лагер. На жаль, парасон пры моцным парыве ветру перакуліўся і ўзляцеў на пару метраў і, прыцiснуты да скалы, гатовы быў у любы момант адарвацца ад яе і паляцець кудысьці на волю. Хлопцы паспелі яго злавіць. Сонца стаяла ў зеніце і праз ачышчанае ад усякіх мікрапылінак высотнымі вятрамі неба пякло ўсур’ёз, а калі пасядзець пад ягонымі праменнямі з гадзіну, можна страціць верхнюю абалонку скуры. Вось тады на гэтым мысе, без ценю тое любае сонейка аказваецца зласлівым. Цень, на шчасце, быў, якраз на кінутым паміж скаламі вочку збаўчай вады, дзе нашы дамы правядуць большасць часу. Дзяўчаты будуць скакаць са скал і плаваць ў абц вакол мыса, пільна сочачы за глыбіннай прасторай, каб адтуль нечакана не падняўся марскі забойца. Тады трэба было б колькі сіл плыць да падводных полак, з якіх выхад на мыс даваў ратунак. Усё гэта Марта з Магдай  пратрэніравалі, каб у выпадку чаго не  панікаваць і не мітусіцца дарэмна, ствараючы сабе ўяўную небяспеку. А ўтрымаць іх на скалах падчас нашай адсутнасці – справа немагчымая.

Мы тым часам адплылі пантонам за чарговы мыс, у які накшталт літары “V” урэзваўся ў стометровай вышыні чырвона-карычневы кліф, заманлівы заліўчык, аб бакі якога  разбіваліся пенлівыя хвалі. Сыходзілі ўніз мы, як заўжды, парамі. Яцэк з Кубам, прыхапіўшы камеру, будуць здымаць

падводныя пейзажы, флору і фаўну. Спадзяюцца тут, здалёк ад цывілізацыі, сустрэць акулу, а калі не, то хоць бы зграю баракуд, да якіх пастараюцца максімальна наблізіцца. Падводнае ружжо Яцэк даў Кубе, каб, калі спатрэбіцца, мог яго хутка пераняць, мяняючы на камеру.

Мы з Паўлам сышлі звыш дзесяці метраў, дзе не было ніякага хвалявання, а толькі цішыня і цудоўная празрыстаць вады. Асвоіўшы вачыма вялікую прастору, за клёшавай сінявой якой ўсё закрываў туманны занавес, мы не адразу ўбачылі серабрыстае зборышча рыб дарада, якія, не звяртаючы на нас увагі, кружылі між высокіх скальных парод. Мы ж прыхапілі з сабой фотаапарат. Паўлік паспрабаваў зняць рыб, аднак яны аддаліліся ад яго на пару метраў і пачалі акружаць нас. Дно з вялікім нахілам сыходзіла некуды ўніз. Мы, разглядаючыся ва ўсе бакі, няспешна сплывалі туды. Знялі вялікага васьмінога, якога, на жаль, прыйшлося пакінуць жывым, хоць гэта смачны дэлікатэс і нашы мамы ўмеюць яго падрыхтаваць паводле гішпанскага рэцэпта, падказанага некалі Мігэлем, якому мы падарылі іх пару вёдзер на Эль Тора Брава. Ён за тое вазіў нас сваёй лодкай некалькі кіламетраў ад берагу, дзе мы лавілі іх голымі рукамі, на глыбіні звыш дваццаці пяці метраў.

Падводнае жыццё бурліла тут разнастайнымі формамі. Мідзі, вустрыцы, крабы, лангусты, прыдонныя раі, каляровыя рыбкі, белыя дарада, парукілаграмовыя смачныя марскія акуні. Паўлік зняў дзесяткі два розных цудаў падводнага свету, пакуль мы не аказаліся над бяздонным каньёнам з абрывістымі берагамі, на гэты раз поўнымі трэшчын, закругленых валуноў, а ўсё гэта зарослае то тут, то там караламі гаргоній, ніжэй нас. Разглядаючыся навокал, плавалі над прорвай. Што за дзівата! Распрасцёршы рукі, лунаеш, ляціш па-над скальнымі абрывамі, а дзесьці далёка ўнізе ледзь маячыць дно, а ты – сярод малых і вялікіх рыб і марскіх акунёў, якія не падаюць выгляду, што ты для іх страшны. Годна кружаць навокал, без панікі сыходзяць табе

з дарогі, калі плывеш у іх напрамку.

Тут можна забыцца на ўсё, што ты пакінуў там, наверсе, на ўсе твае зямныя клопаты, ад якіх ты адрэзаны тоўстым слоем вады. Пад яго не пранікаюць ні гукі, ні вобразы з нашай прасторы. Адно толькі – сачы пільна, аглядайся навокал, каб на цябе не напаў знянацку і не захацеў мець як адно з страў дня кілер падводнага свету. Акула белая – людаед. А яна недзе побач, мабыць, на глыбіні сто пяцьдзесят або болей метраў, сваімі рэцэптарамі сочыць за табой, чуе, як бурляць  паветраныя шарыкі з твайго акваланга і думае – варта ці не варта!?

Падводны каньён пачаў падымацца. На святлеючым дне ляжала мноства кругленькіх каляровых камянёў сярод соцен чорна-фіялетавых ежавікоў. Чуваць быў глухі барабанны гул і каменны скрыгат. Чым бліжэй да гудзення, тым вада станавілася халоднейшай. Урэшце мы даплылі да горыстай сцяны з велізарнай пячорай, што трэшчынамі выходзіла паза ўсхваляваны купал мора. Вада была тут вельмі халодная, хоць не такая, як пры востраве Скамбэдар, што сёння ў Харватыі, дзе мы з сынам Пятром апынуліся ніжэй дваццаці метраў у сапраўднай паруградуснай тэрмакліне, якая спыняла ўдыхі і марозіла цела сваёй амплітудай. Там, побач адзін з другім, раздзеленыя паўметровым слоем, стыкаваліся з сабою слаі вады з розніцай тэмпературы ў дваццаць градусаў. Я тады спыніў спуск, нягледзячы на пратэст Пятра і мы падняліся на пару метраў уверх, каб не ўпасці ў тэрмічны шок. Пасля даведаліся, што менавіта там загінуў вадалазроньер, майстра Славеніі па падводным плаванні. Тут ужо тэмпература змяншалася пастулова, без грознай для голага цела тэрмакліны.

Дно пры пячоры было ўслана кругленькімі каменьчыкамі, з якіх многія проста прасіліся, каб іх узяць, такой былі прыгажосці. Памятаючы словы Міркі, што той, хто ў хату звозіць каменне, не будзе мець грошай, я спачатку засумняваўся, аднак пасля прыхапіў самы адмысловы і па-

лажыў у кішэнь джакета.

У пячоры спачатку нічога не было бачна, таму што салодкая вада, што ракой цякла знутры гары, мяшаючыся з салёнай, давала эфект невыразнасці, і вобразы трацілі сваю вастрыню, быццам ў фотаапараце з разладжаным зумам. Аднак, нягледзячы на ледзяны холад, мы ўплылі на дзесятак метраў унутр, востра працуючы ластамі, стараючыся разгледзець падводны замкнёны свет. Без скафандраў і ліхтарыкаў побыт тут немагчымы. Пячора здавалася прасторнай і знікала ў цемры горнага масіву. Пад самай столлю чырванелі гірляндамі марскія губы. Паўлік стараўся фатаграфаваць, нягледзячы на цячэнне, якое тут выпіхала яго ў адкрытае мора. Хвілін дзесяць пазмагаўшыся з цячэннем ды прамёрзшы, выплылі мы ў воды заліва, які ахінуў нас светам і тут жа сагрэў цеплынёй сваёй вады схалоджаныя целы.

Плылі мы назад побач з высотнымі сценамі кліфа, што з левага боку, шукаючы якара нашага пантона. Убачылі яго здалёк. Па-над ім гойдаўся, недзе высока, маленькі-маленькі наш пантон. Мы пастаялі пры канаце хвілін пяць для дэкампрэсіі і толькі тады ўсплылі на паверхню. Павел скінуў свой джакет з аквалангам і залез на пантон. Я падаваў з вады яму рыштунак. Яцэка з Кубам яшчэ не было. Мінут пяць-сем пасля і яны падплылі да якара. Павел праз маску паглядзеў уніз.

– Тата! Яцэк настраляў вялікіх рыб! – ускрыкнуў радасным голасам.

Сапраўды, на нізалцы віселі два парукілаграмавыя марскія акуні.

Ах тыя двайныя стандарты! Затое абед на скальным мысе – смакацішча! І піва. І настрой кампаніі. І ты сярод блізкіх і сяброў, з якімі дзелішся толькі што перажытым.

Божа, які ж ты рай стварыў на Зямлі!

Ноччу я неспадзявана прачнуўся ад соннага кашмару. Лапачы ў тогах ганяліся за мною, стараючыся мяне схапіць і заперці ў нейкай пагрозлівай цямніцы. А ў мяне ногі не

хацелі бегчы, а яны тут як тут! Успацелы, выйшаў я навонкі, паглядзеў на Месяц, які то хаваўся, то ўсплываў з-за хуткіх воблакаў. Вецер шумеў у акацыях. Кемпінг спаў. Я выняў з халадзільніка банку піва. Памяняўшы кашулю на сухую, я доўга сядзеў, то ўспамінаючы начны кашмар, то этапы следства з пракурорскім сюжэтам.

Цалкам дайшоўшы да ладу, глянуў на магутны пік Капу Вітулю, які быў да нас і будзе, калі не будзе нас, і паслаў кашмарны сон і думкі “нафік”, і пракурора, і ягонае следства, і ўзяў другое піва. “A w mordę i nożem, taka ich mać!” – загнуў я на мове братоў палякаў і прыняў салідны глыток мясцовага бровара.

Во, цяпер добра!

*

Раніца расставіла кропкі над “і”. Дзьмуў востры вецер, аднак не настолькі востры, каб не планаваць нечага. Яцэк рашыў з’ездзіць у рыбацкую вёску ў заліве Жыролята, каб абкупіцца рыбай і пры нагодзе праехаць над абрывам, на які мы заўжды паглядалі, калі вярталіся з мыса. Там, недзе паўтары сотні метраў вышэй, на абсалютна прамым вертыкальным абрыве гары, што, адарваўшыся мільёны гадоў таму, бухнуў прама ў мора, ствараючы ўражлівы кліф, машыны ехалі на самай грані, метр за метрам, без спеху.

Люлі маёй захацелася прайсціся па Порта, купіць сувенірчыкі, пасядзець у кафейцы. Затым зайсці на пляж, паляжаць на карымаце. А вось гэта і мне даспадобы. Пара палюбавацца  пляжнымі каралевамі, з іх радасным гоманам і ўскрыкамі, калі хваля нечакана хлясне распаленае сонцам цела вышэй пупка, і яны, расставіўшы рукі, дзіўна-дзіўна перабіраючы нагамі, пабягуць па мелі, а пасля, затрымаўшыся ў позе, каб памяняць тут жа яе на яшчэ болей прываблівую, будуць, толькі сабе ведама як, назіраць не назіраючы за ўражаннем, якое робіць на такіх, як я, іхняе прываблівае

цела, спакушаючае разбуджанай жаноцкасцю. Ах маманькі! Як жыць!? Дзе праўда, а дзе толькі міражы, якія спасылае на тваё ўяўленне сам Атыхрыст акаянны, што закідае сеці на тваю душу. Дзякуй Богу, Люля побач, якая, убачыўшы твае страсці, спакойным голасам камандуе:

– Лезь у воду, астудзі эмоцыі, а то стыдна будзе за цябе. Стары дзядзька, а быццам падлетак неаперaны, што ўпершыню ўбачыў жаночые цела. Чаго яшчэ сядзіш. Ідзі, ідзі!

А ты, нібыта абразіўшыся за недарэчнае падазрэнне ды за несусветны закід аб старасці, калі табе і сарака яшчэ няма, зробіш морду лася, палезеш замест вады ў пляжны барык за шклянкай піва, а там – пусціш вочка прыгажуні і з барманкаю зменіш пару слоўкаў на самчым эсперанта, не то, каб раптам, а так сабе. А калі запытае, хто ты, з гонарам адкажаш: “Бэлёрусо!” А гэта, пардон, на любой робіць уражанне, асабліва ў той частцы свету. Бэлёрууссcо! Нічога, што сярод этнічных беларусаў ты не гамата па росту, тут ты сама менш роўны, а нават большы за іх. Эбсэлютлы мэн.

Пару гадзін пляжнай паўпарнухі і ты, насыціўшы вока і ўсхваляваўшы цёмны бок душы, з любасцю абмываеш цела пад душам і, накінуўшы свежую кашулю, запрашаеш Люлю і сына на абед з мясцовым меню пад бутэль карсіканскага віна. Такое жыццё!

Яцэк вярнуўся з запасам рыбы значна раней – каб нашы жанчыны змаглі падрыхтаваць супервячэру. Частку мы ўпакавалі ў халадзільнік. Да позняй ночы піравалі мы пад зорным небам Корсікі. Моладзь наша ўнізе паддалася дыскатэкавым вібрацыям.

А калі ўсё заціхне і толькі Месяц з Юпітэрам паплывуць навыперадкі і акажуцца па-над Капу Вітулю, зразумееш, што няма прыгажэйшай, няма больш пульсіруючай жаноцкасцю ва ўсім свеце, за яе. За Люлю тваю, з сузор’я Скарпіёна.

*

Учарашні вецер дзьмуў яшчэ парывістымі марскімі брызамі, узмоцненымі ціскам шалеючага над Лігурыйскім морам шторму, які пракаціўся Лазурным пабярэжжам ў напрамку Генуі, абмінуў Корсіку, каб з застаўшайся сілай ударыць у Апенінскі паўвостраў, роўны амаль палове тэрыторыі Беларусі. Хай італьянцы пазачыняюць шчыльна аканіцы ў прыморскіх хатах і чакаюць добразычлівага сонца.

Звыш трохметровыя хвалі з белымі грывамі беглі навыперадкі з адкрытага мора праз увесь заліў, ламаючыся з грукатлівым гулам на падводных парогах, каб з пенлівым шумам урывацца на пляж, ганяючыся за дзятвою і іхнімі мамкамі. Толькі нямногія пляжныя мэны прарываліся праз хвалі і гойдаліся па-за імі то ўніз, то ўверх, выклікаючы захапленне сваіх фрэнд гелз. На фоне Калянш крэслілі прастору белымі парусамі віндсурферы.

А нашы дзецюкі беглі ў напрамку хваль, кідаліся ў іх і, гнаныя пенлівым валам на пясочны бераг, радаваліся, бы малалеткі. Мы са шклянкамі піва вылежваліся сярод аматараў ёду, які аэразолевым міксам вапны, брому і магнэзія разам з мікрадрабінкамі марской вады, што пырскаюць нябачнымі фантанамі, разбіўшыся аб скалы і ўзнесены парывамі ветру, запаўняў прастору каньёну Порта аздараўленчай вільготнасцю. Прыемна нічога не рабіць, расслабіцца, завесіць вока час ад часу на прывабліва закругленых бёдрах паўднёвых прыгажунь, што мітусяцца побач, акінуць позіркам іх набрынялыя дзявочасцю, голыя грудзі, удыхаць аздараўляльны ёдавы мікс, углядацца ў магутнае мора, а ўсё гэта пад ягоны гул, што ціхай музыкай напаўняе тваё цела і радуе душу.

Я расслабіўся цалкам, а фантазіі адна за другой напаўнялі ўяўленне, сыцілі вобразы падводнымі кадрамі, дзе час застыў у вечнай містэрыі прыгажосці. А каб так застацца тут, не вяртацца ў багну той новай рэчаіснасці, дзе ты не ты,

а жыццё тваё пад прыцэлам дзесяткаў новых спецворганаў, якіх раней і ў паміне не было. Га!? Я пагаварыў аб гэтым з Яцэкам.

– Віця! Можаш. Летам табе тут будзе добра і ўтрымаеш сям'ю на ўзроўні. А зімой? Занудзішся насмерць. Вярніся і змагайся! Справішся. Там твая зямля і твая айчына. А можа справа ў тым, каб такіх, як ты, выставіць адтуль? Пакорлівых лёгка паставіць на калені. Успомні "Салідарнасць", тую салідарнасць. Многія пакарысталіся магчымасцю, схапілі азыль і паехалі. А чаму? Бо так было зручна ўладзе. І не толькі. Яны былі не выгодны абодвум дамаўляючымся бакам. Таму іх зманілі лёгкім азылем і міражамі раю. У іх прысутнасці немагчыма было б адурманіць люд пры Круглым стале і пусціць народ без портак. Засталіся, як кажаш, бенефіцыенты той салідарнасці і чырвоныя тузы, бароны постпрыватызацыі. Хто яны? Быць можа, як іх завеш, цівуны сусветнай закулісы. Падумай аб гэтым, дружа.

Пад вечар я пазваніў Пятру.

– Ну як там, сын? Як Настулька, унучка мая, як Оля!?

– Усё добра. Не перажывай. Найперш, бацька, раскажы, як было пад вадой?

– Шторм паблізу, хвалі высокія, хлапцоў пад ваду не возьмеш, бо скокі ціску ў амплітудзе хваль пагражаюць баратраўмай.

– Не тлумач. Ведаю тэорыю падводнага плавання. Дык чым займаліся?

– Два дні на пляжы. Толькі мама крыху пабурчыць.

– Эх, бацька!? Ты ж не аглядайся напорыста на паненкі! Мне цябе вучыць?

– Ну, гэта не цалкам так. А нахалеру паўголыя лазяць! – паскардзіўся я. – Ты лепш скажы, што з фірмай?

– Дзве фуры на мытні. Заўтра растаможу. Нармальна.

– Прызнайся, стаміўся?

– Ды не. Жыць можна.

– Слухай, сын, ты нечага не ўтойваеш перада мною? –

запытаў я раптам, пачуўшы ў голасе яго нейкую змененую інтанацыю, характэрную чалавеку, у якога з'явіліся праблемы.

– Неее, – заікнуўся сын. – Нармаальна.

– Ясна, Пётр. Скажы, не хавай – прыйшло?

З таго боку завісла парусекунднае маўчанне і толькі пасля майго “Ну!?”, Пётр раптам вымавіў прыглушаным голасам.

– Прыйшло, бацька, з суда. Не хацеў адбіраць радасці адпачынку.

– А што? Прачытай.

Праз паўхвіліны Пётр чытаў судовы акт абвінавачання, дзе я напрамкі называўся абвінавачаным у злачынстве ў вялікіх памерах, этцэтэра, ітэпэ, ітэдэ. Спачатку ў мяне заняло дых, аднак праз хвіліну ўсярэдзіне пачала нарастаць фрустрацыя, урэшце я перабіў Пятра, папрасіў назваць дату судовай разборкі і спакойным, станоўчым голасам адрэагаваў на судовую парнуху:

– Кіндыбал ім у шамот! – загнуў турэмшчынаю. – Сыну, не бяры да галавы. Хочуць разборак, будуць мець. Вер мне, справімся. Ніхто не паставіць бацьку твайго на калені. А ты трымайся, працуй! Галаву вышэй! Зразумеў!?

– А як жа, баця! Веру ў цябе.

– Трымайся, мужык! Пакуль!

*

Вецер прыціх, час ад часу дзьмухаючы мацнейшай брызай. З неба спаўзлі і схаваліся за гарызонтам пёрыстыя палоскі воблакаў. Праз ачышчанае да апошняй пылінкі неба бесперашкодна сачыліся, насычаныя энергіяй цеплыні, промні ўзышоўшага сонца. Толькі ёдавы мікс, узняты ветравымі парывамі з разбітых аб высокія скалы хваль, стаяў унізах нябачнай аэразолевай хмарай, якая, ачышчаючы альвеолы лёгкіх, спрыяла працэсу дыхання і самаадчування.

Чалавек, набрынялы новай порцыяй энэргіі, шукаў для яе выхаду і прыдумляў спосабы актыўнага адпачынку.

Загаманілі птушкі ў эўкаліптавым гаю, дзе мы ад самай раніцы, як заўжды, напампоўвалі да двухсотпяцідзесяці атмасфер нашы акваланґі. Вядома, паводле вайсковых норм для курсантаў, нельга перавышаць стапяцідзесяці. Там ніхто не хоча адказваць за нікога, а Яцэк, як выпускнік палітэхнічнага інстытута, меў на ўсё гэта свой погляд. Для сябе набіваў і да трохсот атмасфер, але я, помнячы, як падчас вайсковага курсу вадалазаў вырваўся пад ціскам звыш двухсот атмасфер клапан, а балон паляцеў, бы авіябомба, а ён сам на шлангу скакаў нібыта мышка Мікі, ведаў сваё. Хапіла гэта ўспомніць і уявіць сабе, што сталася б пад вадой, калі б вырваў клапан  і адстрэліў чэрап – рыбы тут жа заняліся б тваімі мазгамі, калі ты, вадалаз, імкнуў бы, як тарпеда, ластамі назад. Таму я рабіў стоп, калі мае акваланґі напампоўваліся пад дзвесце пяцьдзесят, а то і меней.

На паморшчаныя, яшчэ з неўтаймаванымі хвалямі воды заліва ужо выплылі парусьнікі, а віндсурферы, хапаючы подыхі ветру, перасякалі прастору стрэлападобнымі палотнішчамі. Там марскія брызы мелі яшчэ сваю моц. На пляж падаспелі мамы з малалеткамі. Моладзь  разбягалася і з крыкам кідалася ў хвалі і, падхопленая пенлівым валам, шарыла жыватамі па пясочным беразе. Адкрыліся прыпляжныя буцікі, будкі з напоямі і прыпартовы бар, які пазначыў прастору грылевым пахам. А ўсё гэта для  поўнай сінхроніі патрэб і магчымасцяў. Люд, пасля вячэрніх выпівонаў, патрабаваў схаладжанага куфля піва для танізацыі арганізму.

Мы, тым часам, упакавалі ўсё неабходнае ў пантон і накіраваліся ўздоўж правага берага ў пошуках цікавага месца для дэсанту нашай каманды. Кіламетраў пяць ад Порта паказаўся міні-заліўчык, а зараз жа другі з больш прасторным бязлюдным, камяністым пляжам, прытуленым да высокай скальнай сцяны. Менавіта тут абсталюем нашу

сённяшнюю базу. Пантон, прабіраючыся паміж невысокіх, вырастаючых з дна скал, прычаліў да пляжа. Высадка ішла спраўна, бы на палігонных занятках. Кожны з нас ведаў, за што брацца, каб пазбегнуць хаатэчы. Каларыстыка кліфавых абрываў, што адбівалася ў маршчынах вады, як у вялікім люстры, дзесяткі вырастаючых з-пад вады скальных вяршынь, тунэль, праз які пару хвілін пасля высадкі пачалі пераплываць на другі бок нашы дзеці, мамкі, якіх мы ўгаварылі паплавць у масках, каб палюбавацца падводнымі пейзажамі, бачнымі з паверхні – чырвонымі марскімі зоркамі, фіялетавымі ежавікамі, крабамі, каляровымі рыбкамі, лангустамі і ўсім, што няспешна праплывае па асвоенай прасторы. І ўсё гэта складалася ў нешта незвычайнае, ніякім чынам не нагадвала вядомую табе і абжытую штодзённую рэчаіснасць, дзе перастаеш бачыць, а мо заўважаць штолечы, канцэнтруючыся на сваім унутраным дыялогу, які вечна плыве па-за свядомасцю і па-за рэальнасцю. А тут усё цябе здзіўляе і ты, не паспеўшы як след сканцэнтраваць увагу на нечым адным, тут жа перакідаешся на нешта іншае, не менш фантастычнае, і пачынаеш ўнутры самога сябе квітнець пульсіруемым букетам эмоцый. Вось так якраз было з нашымі жонкамі, для якіх з найменшым рухам іх ластаў змяняліся падводныя краявіды, а кожны з іх выяўляў цалкам іншыя прасторы, што заварожвалі цябе гармоніяй падводнага жыцця. Паспрабуй не захапіся!.

Між тым мы адплылі метраў двесце-трыста ад берага і парамі апусціліся пад ваду. Празрыстасць стварала ўражанне велізарнага пузыра, у цэнтры якога ты сам і кожны твой рух ўбок ці ўперад адкрываў новыя перспектывы і аб’екты, або раптам з-за сіняй занавесы ў поле зроку ўплываў касяк рыб, якіх ты раней не мог ні ўбачыць, ні здагадвацца аб іх прысутнасці тут жа побач. Вось так раптоўна магла з’явіцца і акула, з любога боку пузыра, і таму мы, плаваючы пад вадой, час ад часу круцілі фігуру гарызантальнага штопара, каб акінуць зрокам прастору за сабою. Сцеражонага Бог сце-

ражэ. Неўзабаве мы раздзяліліся. Яцэк, як заўсёды, ішоў з ружжом і Кубам побач, і канцэнтраваўся на падводным паляванні. Мы з фотаапаратам шукалі экспазіцый, крабаў, рыб, каралаў. Нечакана падплылі мы да вертыкальнай сцяны, якая з'явілася з левага боку і вырастала на некалькі паверхаў, аднак не ўздымалася над вадою. Над ёй, здавалася, высока-высока, перавальваліся хвалі. Сцяна аказалася доўгай, а ад яе падножжа ападала па-за прастору празрыстасці дно, з не надта вялікім схілам, што стварала ўражлівую перспектыву. То тут, то там тырчэлі рознай вышыні скалы, парослыя бурымі кветкападобнымі былінамі, або зусім голыя, быццам толькі што адарваўшыся недзе высока і, падаючы, затрымаліся тут, на скосе дна. Навокал мноства шкарлупіння, крабаў, што хаваліся перад намі, рыб, якія стараліся сысці з нашага курсу, а ўсё гэта прыкоўвала ўвагу, цешыла вока. Хвілін пару забаўляліся мы з васьміногам, які, схаваўшыся ў шчыліне, паглядаў на нас адным вокам і круціў выкрунтасы сваімі адножжамі з мноствам прысосак. Пэўна ж, не разумеў ён, чаму прычапіліся гэтыя на нішто не падобныя стварэнні якраз да яго і ўздыхнуў па-свойму, калі мы адплылі ад яго.

Праплывалі мы паміж сцяной і скалой, дзе было шмат прасторы, каб свабодна прайсці на другі бок. Высока над намі гойдаліся хвалі, іграючы праменнямі сонца, якое, не даходзячы да дна, прасякала светлымі штыкамі падводны краявід. Раптам Павел схапіў за клапан майго акваланга і шугануў паўтара метра ўверх, адварочваючыся адначасова ўбок ад падножжа скалы і падкурчваючы ногі. Я глянуў туды і мяне змарозіў выгляд атакуючай сына вялікай мурэны, адкрытая зяпа якой з вострымі зубамі, здавалася, хапае за ягоную нагу. Імгненна вырваўшы нож, я стукнуў ім аб металічны буталь акваланга, які адазваўся пранізлівым гукам, а затым – другі раз і трэці, што затрымала мурэну, і яна ад нечаканасці спыніла атаку і стала заднім ходам хавацца ў скальную шчыліну. Не ведаю, якія эмоцыі кіпелі ў

Паўлавай галаве, аднак тое, што завалодала мною ў тую хвіліну, дазваляе зразумець чалавечую раз'юшанасць. Затрымаўшыся ў метрах двух-трох ад мурэны, з нажамі ў руках, узбуджаныя нечаканай агрэсіяй, мы і яна, што са сваёй шчыліны шчэрыла на нас зубы, варожа прыглядаліся адно да другога. Я нечакана пашкадаваў, што не бяру з сабой падводнага ружжа. Прылажыць бы гадзюцы па поўнай праграме, а пасля ў кацёл, каб парадаваць цела і насыціць апетыт куском ворага твайго, што асмеліўся на табе спагнаць апетыт свой.

Мы адплылі адтуль яшчэ метраў дзвесце, ды не знайшоўшы канца сцяны падводнага абрыву, няспешна падняліся ўверх. Над намі, паверхі два вышэй, гойдалася люстра мора. Роўная плошча абрыва знікала за купалам празрыстасці. Сонца мітуслівымі плямамі іграла на голым тут скальным дне. Усюды кружылі каляровыя рыбкі і час ад часу блiскалі серабрыстай лускою сардзіны, а можа дарада. Мы, плаваючы паўкругамі на глыбіні ніжэй трох метраў, выконвалі дэкампрэсію. Калі ўсплылі на паверхню, метраў не болей двухсот ад нас, на пантоне, былі ўжо Яцэк і Куба. Падплылі да нас, узялі акваланті. Па іх тварах было відаць, што ім пашанцавала. Яцэк стрэліў пару рыб, сярод якіх вылучаўся парукілаграмовы марскі акунь. Куба голымі рукамі выцягнуў свайго першага васьмінога.

Вячэра зноў была пышная смакамі і ўпрыгожаная падводнымі ўражаннямі нашых сыноў. Мамы не хавалі сваіх эмоцый. А гэтым разам Люла заявіла, што пад ваду заўтра сына не пусціць.

*

Выплылі мы на заліў Гіралята, у глыбіні якога прытулілася да схілу горнага хрыбта Сяніна рыбацкая вёска. Паставілі пантон на якар пры міні-астраўку побач з мысам Капо д'Осані, а па праўдзе на падводнай скальнай горцы, на

якой хапала месца і для мам, і для нас для адпачынку. Празрыстасць вады была тут пад сорак чатыры метры, што мы памералі метадам Сэч'ега, апускаючы адпаведны круг у глыбіню і выцягаючы яго нанава, пасля таго, як знікаў з поля зроку. Па плану сёння мы апусцімся парамі на глыбіню звыш сарака метраў. Для нашых сыноў гэта будзе залік першай саракоўкі. Пры нагодзе прасочым іхнюю рэакцыю на азот і ягоны азотавы наркоз, інакш – эўфарыю глыбінь. Пасля гадзіннага плавання ў абц прыйшла пара ісці пад ваду. Раней з Яцэкам мы акрэслілі месца спуску, дзе глыбіня пачыналася ад сарака з нечым метраў.

Пачалі апускацца ўніз пара за парай. Яцэк з Кубам былі крыху з боку метраў тры пад намі. Мы выразна бачылі іхнія гейзеры пузыркоў, што бурлівымі струменямі імкнулі ўверх. Дно маячыла недзе глыбока ўнізе. Здавалася, што мы ападалі быццам астранаўты ў невядомы незямны свет. Аглядаючы прастору навокал, мы бачылі паасобных рыб і групкі па некалькі дзесяткаў, якія аплывалі нас, прыглядаючыся нештадзённай з'яве. Магчыма, што акрамя нас, мала хто сюды апускаўся. Крыху далей, направа, па-за нашымі плячыма, высілася падводная гара, пік якой не даставаў да люстра вады метраў дваццаць. Мы спраўна выраўнівалі ціск у вушах, выдзьмухвалі ваду, якой удавалася забрацца пад маску вышэй ноздраў, ажно сіліконавы каўнер амаль прыклейваўся да твару, не прапускаючы ні кроплі. Азіраючыся навокал, каб нешта нечакана не ашаламіла нас сваёй брутальнай нечаканасцю, мы няспешна ападалі ў напрамку штораз больш выразнага дна. Адчувалася магутнасць мора, ягонага, здавалася, жывога арганізму, які кіпеў незвычайнымі формамі жыцця. Адсюль падавалася, што празрыстасць вады пад пяцьдзесят метраў, а мы, дзякуючы эфекту падводнага бачання праз маску, што, праўдападобна, у разы пабольшвае прастору, адчувалі сябе быццам у цэнтры незямнога космасу, дзе гарызонт перамяшчаецца разам з табой, а над галавой замест сонца бачыш неверагодныя

рухлівыя светлыя кругі, нібыта паўночнае ззянне, якое з кожным метрам углыб траціць свой бляск і форму. Павел адказваў на мае знакі, рэагаваў спакойна на каманды і яшчэ праз пару хвілін мы апынуліся пры самым дне. Там ужо былі Яцэк з Кубам. Мы падплылі да іх. Глянулі на глыбакамеры. Сорак адзін з палавінай метр! Мы тут жа павіншавалі нашых сыноў з першай саракоўкай. Відаць была ў іх вачах радасць. Іх радасць перадалася і мне.

Здаецца, я раней нічога падобнага не адчуваў. Неверагодна вялікая прастора, з рознакшталтным жыццём, з вірлівым недзе пры грані празрыстасці касяком белых рыб, завалодала нашымі пачуццямі, якія вызвалялі светлыя эмоцыі перад чарамі невымернай магутнасці і моцы гэтага свету, так што ты раптам адчуваеш сябе яе крышынкай, спалучанай нябачнай сувяззю, узмоцненай ўзаемнымі вібрацыямі вады і цела. Вось тут і напаўняе цябе глыбінная радасць! Можа, эўфарыя!? Вось я, на чый лёс намагаецца накласці сваю пячаць хворая заўзятасцю, насычаная несправядлівасцю прававая сістэма краіны, стаю на дне, на сярэдзіне Міжземнага мора са сваім сынам і сябрамі і ніхто ў мяне гэтага ніколі не зможа адняць, вымазаць, спракудзіць і сцерці.

Большасць з тых, хто трасе лёсам Зямнога Шара і лёсам мільярдаў людзей, хто мае нас усіх выключна за людскі фон, глебу, на якой можна эксперыментаваць да “больше не хочу”, праводзіць усялякія пасевы варожых людзям сатанінскіх ідэй, падмяняючы спрадвечныя маральныя прынцыпы хворымі прывіўкамі маньяцкіх “вартасцяў”, што з’яўляецца ужо набіраючай тэмп вайной з цывілізацыяй белага чалавека, з ім самім, да поўнага яго знішчэння, замены ягонага чыстага генетычнага кода ўсялякімі прымесямі, каб урэшце растварыўся ён у моры міксаў і згінуў. Адназначна. Астаўшыхся будуць паказваць у клетках, як самых заўзятых ворагаў людской джэндэрнай расы.

На дне мора, гэтай часткі сусветнага Акіяну, не лічыцца

магія залатога цяльца, якім заварожаны ўладальнікі штампуючай зялёнае паперкавае багацце друкарскай машынкі, якое дае пачуццё ўсемагутнасці і беспакаранасці. Усё гэта тут цалкам непрыдатнае, калі станеш вока ў вока з небяспекай і агорне цябе паніка, а ты адчуеш сябе нязначнай пылінкай у гэтай несціханай, амаль пазбаўленай гравітацыі прасторы. Аднак прыязнай, калі яе палюбіш. Тады і яна будзе сцерагчы цябе, ахіне чуллівай магіяй прыгажосці, так адрознай ад нашай наземнай. Не захочаш усплыць наверх, каб вярнуцца ў свет вечных клопатаў і прэтэнзіяў усіх і ўсяго. А тут – тваё захапленне, твой стан духа, блізкі эйфарыі.

Аднак, стоп! Менавіта так называецца тая самая-самюсенькая пагроза твайму жыццю. Эйфарыя! Эйфарыя глыбінь. Я знакам рукі спытаў, “як сябе адчуваеш!?” Усе адказалі “О.К. ”

Час знайсці прыгожую ракавіну на памяць аб здабытай глыбіні і памалу падымацца ўверх. Мы расплыліся парамі ў пошуках нечага незвычайнага. Павел прыбраў да рук пару цікавых ракавінак, мне таксама спадабаліся некаторыя і я палажыў іх ў “кішэні” джакета. Раптам мне здалося, што Павел надта дзіўна і нескаардынавана замітусіўся. Я схапіў яго за плячо, а калі ён павярнуўся, я зазірнуў яму ў вочы. Эйфарыя глыбіні! Самая сапраўдная! У яго шырока адкрытых, а на самай справе вытарашчаных вачах, ігралі ненатуральныя эмоцыі, як у п’янага-п’янага чалавека. Яму было ўсё роўна, дзе ён. Павел мог у любую хвіліну паперці некуды за міражом і нават выкінуць з рота муштук, каб дыхаць вадою. Я тут жа ўхапіў яго за рамень акваланга, паказаў яму знак “стоп” і трымаў моцна, каб не вырваўся, а пасля памалу стаў падымаць яго ўверх, увесь час супакойваючы яго знакам “О.К.”, каб ён толькі сяк-так кантактаваў з рэчаіснасцю. Гэта, быць можа, адзіны спосаб для вываду з азотавага наркозу, эйфарыі, якая, завалодаўшы вадалазам, выключае яго з самакантролю.

Мы падняліся ўверх ужо не меней за пяць метраў. Павел усё яшчэ быў ашаломлены, незвычайна узбуджананы, але не мітусіўся, а праз пару хвілін кіўнуў галавой, падняў руку, каб адказаць на знак знакам, хоць гэта яшчэ ў яго не атрымлівалася. Ён вяртаўся ў сябе самога. Так мы ўсплылі на падводную гару, метраў звыш дваццаці над пахіленым нязначна дном. Над намі, паверхаў шэсць-сем, танцавалі хвалі, мільгаючы разнастайнымі эліпсамі, кругамі, закосамі і струменямі праменняў, якія імкнуліся паласнуць дно. Надарэмна. Мы прыселі на вяршыне гары. Увесь час я прыглядаўся да Паўла. Эўфарыя адпусціла яго, ён беспамылкова рэагаваў на знакі, адказваў на іх і паказваў, што адчувае сябе добра. Я рашыў пасядзець на гары пару хвілін, тым болей, што на самым дне, калі мы збіралі ракавіны, не было глыбей за сорак тры метры. Мы там былі звілін трычатыры. Значыць, не перавысілі залатой пяцідзесяткі. Кесонавая хвароба нам не пагражае. Гэта наша першае пагружэнне сёння і час не сумуецца.

А тут якая прыгажосць! Навокал падводнай гары бурліць жыццё. Нейкія рыбкі і рыбы, хмарамі і паасобку, шпараць ва ўсе бакі. А незвычайны рухомы вадзяны клёш, быццам купал незямнога храма, накрывае цябе абсалютнай цішынёй і толькі нашы раўнамерныя ўдыхі і выдыхі з бурлячымі выплескамі з-пад мембранаў акваланга, што шыпячымі гейзерамі бягуць уверх, каб там, прабіўшы люстра вады, пырскнуць у паветра, што і ёсць і будзе адзіным гукам у гэтым свеце вечнай цішыні. Дастаткова затрымаць удых, каб у яе ўслухацца.

Аднекуль, з-за бар’ера празрыстасці, з’явіўся невялічкі касячок белых рыб. Яны, зацікаўленыя бурлячымі пузырамі паветра, гірляндамі, імкнучымі ўверх, пачалі тоўпіцца, акружаць нас, штораз цясней скарачаючы круг, няспешна праплываючы навокал, быццам стараліся разгледзець як след незразумелых і ні на што непадобных ім монстраў. Аднак не палохаліся, бачачы, што мы не выконваем ніякіх

агрэсіўных рухаў. Раптам адзін з іх, здаецца, вастрабок, падплыў да Паўла, што сядзеў побач са мною, па левую руку, затрымаўся сантыметраў двадцаць-трыццаць ад ягонага твару, зглянуў у ягоную маску, угледзеўся дакладна ў ягоныя вочы і вельмі спакойна і няспешна адплыў да сваіх. Рыбы, не робячы наступнага круга, адплылі ад нас па-за прастору нашай бачнасці і зніклі ў задымленай сінечы. У Паўла зайралі эмоцыі з новай сілай. Цяпер гэта былі эмоцыі, што выплывалі з глыбіні душы, светлыя і натуральныя. Вось толькі што ён вока ў вока сустрэўся з істотай з іншага вымярэння свету. Вастрабок, як бы пасланы грамадой, прыплыў, каб паглядзець у вочы істоце, каб даведацца, хто яна, зразумець яе характар і намеры. Вастрабок быў цікаўны, быццам выконваў каманду групы, ды не быў гэта інстыкт, што стараліся ўнушыць нам настаўнікі, сілкуючыся падручнікамі біялогіі. Павел узрушыўся.

Ну, братцы, ажно і ў мяне дух заняло. Такога яшчэ я не бачыў, як жыву ці плаваю пад вадой! Калі мы выплылі на паверхню, Павел сказаў:

– Бацька! Ніколі не буду страляць рыб.

– Ведаю, сынок. Ведаю.

*

Мы пару дзён яшчэ раз, а то і па два разы сыходзілі пад ваду, шукаючы незабыўных месц вакол мыса Сэрыно ад Па Скопа да заліва Гіралята. Заглядалі ў падводныя пячоры, лунаті над каньёнамі. Знайшлі загубленую сетку, якая зачапілася аб скальныя валуны і была пакінутая рыбакамі. Сабралі шмат цікавых шкарлупін, якія раздамо знаёмым у хатнія акварыумы, частку пакінем сабе на памятку. Рабілі падводныя фота, здымалі кадры фільма.

Жанчыны захацелі пабыць абавязкова на дзікім пляжы Калянш, паплюхацца на знаёмым ім ужо плыткім месцы, паляжаць на гарачым пяску. Без праблем. Мы затое яшчэ раз

зведаем падводны “замак”, пры якім Паўла схапіла сутарга мускула нагі. Куба там не быў і, заахвочаны нашымі аповедамі, чакаў апускання.

Апускаліся пад ваду пры “Нептунавым замку” з паўднёвага боку, насупраць Калянш. Сыходзілі поруч адзін другога. Яцэк на гэты раз не ўзяў з сабой ружжа. Калі толькі над намі шчыльна зачынілася пліта вады, гойдаючыся над галавой лагоднымі, бліскучымі, быццам люстры, хвалямі, мы няспешна пачалі падаць нагамі ўніз на травяністае дно, разглядаючыся вакол. Як звычайна, маўкліва прыглядаліся да нас непалахлівыя рыбы, кружачыся няспешна ў прасторы вады.

Мы затрымаліся ў пару метраў над дном, прыгледзеліся да падводнай гары і рушылі побач з ёю на паўночны захад. Аплывалі габарытныя скальныя валуны, зарослыя фіялетава-карычневымі былінамі, што вечна гойдаліся і сярод якіх хаваліся крабы, малюскі, каляровыя рыбкі. Высока перад намі стаялі паасобку  марскія акуні. На голых вяршынях скал ляжалі чырвоныя марскія зоркі, фільтруючы пылінкі з празрыстай вады. Плылі мы няспешна, поруч, паказвалі цікавыя знаходкі, падымалі ракавіны, якія і так найчасцей пакідалі на дне. Неўзабаве апынуліся там, дзе Паўла спаралізавала болем моцнае скарачэнне мышцаў нагі. Адсюль падводная гара бачылася  незямным, сюррэалістычным, казачным замкам. Мы аплывалі яго, знаходзячыся пару метраў над травой, і прыглядаліся да ягоных незвычайных кшталтаў. Дно ападала некуды ўніз стромкім схілам, з якога вырасталі вяршыні скал, ствараючы самавітае відовішча. Гара-замак закруглялася направа і мы таксама плылі, робячы паўкруг.

Раптам дно абарвалася гвалтоўна на зацененым баку адхону. Усё! Няма. Мы, бы заваражаныя, глядзелі ўніз абсалютна вертыкальнага абрыва, без дна і без супрацьлеглага берага. Толькі марскія акуні то тут, то там, ніжэй нас і вышэй, спакойна віселі ў марскім бяздонні, быццам

чакаючы нечага.

Няспешна мы выплылі ў неабсяжную прастору, дзе толькі направа ад нас высіўся на паверхаў дзесяць, завершаны недзе там далёка пенлівай каронай, магутны “замак”, якога падножжа хавалася недзе ўнізе ў цёмнай сіні. Мы памаленьку сталі апускацца ўніз да трыццаці сямі метраў, заглядаючы ў адмысловыя шчыліны-аркі, пячоры і дзіўныя трэшчыны гары-замка, на сценах якой пачалі з'яўляцца галінкі каралаў, а на выступах грэбні гаргоній. А дна як бы і не было. Нейкі метафізічны неспакой авалодаў пачуццямі ўперамежку з незвычайным захапленнем. Міжвольна нараджалася пачуццё, узбуджанае падсвядомым разуменнем магутнасці падводнай стыхіі, яе неабсяжнай моцы, дзе мы – істоты з іншага свету, загубленыя ў яе невымерных прасторах, прыведзеныя сюды пераможнай цікаўнасцю, менавіта гарачым жаданнем пераўжыць немагчымае, насыціць інстынкт даследчыка новых сусветаў. Плылі мы няспешна ў нямым захапленні. Нават Яцэк, чалавек навонкі рацыянальны, які не паддаецца эмоцыям, завісаў нерухома, каб насыціць душу незвычайнай праекцыяй прасторы.

На мяжы празрыстасці і на розных вышынях з'яўляліся і знікалі нейкія кшталты. Мы не надта непакоіліся. У такой грамадзе самі маглі б быць падводным рэкетам. Так што абы -якая акула не магла б асмеліцца наблізіцца да бурклівых монстраў, што павольна перамяшчаліся без ніякай мітусні, а значыць без слядоў і панікі, і агрэсіі. І тады Куба змененым праз мембрану аўтамата голасам звярнуў нашу ўвагу і паказаў налева, крыху ўверх. Цалкам нерухома стаяў групер, epinephelus marginatus, з сям'і серанідэ, набліжанай да марскіх акунёў, драпежнік, які аб'ядаецца васьміногамі, кальмарамі і рыбамі – вялікі да кілаграмаў сарака, цёмны, з выдатнымі вуснамі навокал шырокай зяпы, даўжынёй сантыметраў семдзесят. Гігант. Мы спакойна набліжаліся да яго, каб толькі не спалохаць, калі ён нязначна рабіў паварот. На лініі празрыстасці мы пабачылі яшчэ аднаго і яшчэ. Во,

дзе яны! На зацемненым баку падводнай вертыкальнай гары! Мы праплылі яшчэ мо некалькісот метраў у прасторы без дна і выплылі зноў у светлую незацененую бездань мора, апынуўшыся з усходняга боку гары.

Таксама раптам як знік, так і з'явіўся адхон, над якім вырастала гара. Мы мінулі грань абрыву і, акружаючы гару надалей, падымаліся вышэй і вышэй, пакуль не замаячыў канат нашага якара. Неабходная дэкампрэсія – і мы, зняўшы акваланглі ў вадзе, падавалі іх хлопцам, якія спрытней за нас змаглі забрацца ўжо на пантон.

Хлопцы расказвалі мамам і дзяўчатам перажытае. Шок!

Паабедаўшы на пляжы, мы рушылі назад. Калі наблізіліся да пляжа Порта на кіламетры чатыры, раптам нашы хлопцы захацелі даплыць да берага ў самім абц. Што ж, калі так, няма праблем. Я таксама надзеў маску, узяў трубку і ласты і саскочыў дэсантным у ваду. І мы, я паперадзе, а хлопцы за мной па абодва бакі, пачалі спакойным брасам лёгка плыць, трымаючыся правага боку пантона. Паступова мы набіралі тэмп, тым не меней стараліся не перавысіць магчымасці руху з раўнамернымі ўдыхамі. Увесь час я назіраў за навакольнай прасторай, ведаючы, што небяспека можа сустрэць нас у любую секунду. Вадалазныя нажы былі ў кожнага прымацаваны да нагі. Плылося добра, мо палавіна дыстанцыі была за намі, калі я пачуў прыглушаны крык ззаду. Я азірнуўся, акінуў позіркам прастору навокал і нічога пагрозлівага не ўбачыў. Падняў галаву над вадою і тады ўбачыў Кубу, які, высунуты да палавіны грудзей, трымаўся за шыю з выкрыўленым ад страшэннага болю тварам. Я яшчэ раз перагледзеў падводную прастору і, акрамя невялікіх мядуз, нічога небяспечнага не ўбачыў. Нават акула не была б такой хуткай, каб магла схавацца ў такі кароткі час за далёкай сцяной непразрыстай вады.

Мы ўцягнулі Кубу на пантон і самі ўскочылі на ягоны борт. Яцэк уключыў матор на поўную моц, а мы толькі глядзелі, як Куба енчыць з болю і траціць вітальныя сілы. На

ягонай шыі пухлі белаватымі абручамі кругі вакол цямнеючых праколаў, быццам вампіравых укусаў. Пантонны рухавік надрываўся сваім буркатам і пхаў лодку наперад, абы хутчэй дабрацца да берага. Урэшце пантон урэзаўся ў пясчаны пляж непадалёку ад вусця Порта і Яцэк, саскочыўшы, пабег за машынай, а мы з Паўлам узялі Кубу пад пахі, закінуўшы ягоныя рукі веліканa нам на шыі, і павялі напрасткі ў эўкаліптавы гай, куды мусіў падаспець Яцэк. Ногі ўгіналіся пад пацярпелым. За намі ішла Мірка, поўная бездапаможнасці і неспакою за жыццё сына. Не ляментавала, аднак эмоцыі яе зашкальвалі. Яцэк зрабіў востры разварот, уздымаючы коламі фантан пяску, і падбег да нас, каб узяць Кубу на рукі і ўладкаваць у джып. Разам з Міркай яны рушылі да пункту аховы здароўя, які мы пазначылі на самым пачатку побыту – так, на ўсялякі выпадак. І вось ён, здарыўся. Мы з Паўлам вярнуліся да пантоннай лодкі, дзе вельмі занепакоеныя Люля і Магда з Мартай пачалі нас распытваць. Сэнсоўнага адказу не было.

Мінула гадзіны дзве, пакуль вярнуўся сам Яцэк. Куба тым часам ляжаў ужо на сваім ложку пасля моцнага антыдотума і пад апякунчым вокам маці.

Як жа, аказваецца, блізка адно ля другога – радасць і сум, як аверс і рэверс жыцця.

Ужо вечарам Куба амаль цалкам вярнуўся да здароўя і не захацеў ляжаць у пасцелі. Слабы яшчэ быў, сядзеў у мяккім палатняным крэсле, прыкрыты пледам,  а маці не спускала позірку са свайго амаль сямнаццацігадовага сына. А мы за пляшкай  расслабляліся  каля бунгала, пры смакавітай вячэры з кухні мам, тостамі замацоўвалі аздараўляльны працэс Кубы. Мамы чокаліся з намі шкляначкамі віна, а моладзь піла нейкую кока колу ці іншую нечысць.

Наш выезд падыходзіў да канца. Паслязаўтра вяртаемся дамоў.

*

Пляж Калянш на гэты раз быў людны і запалоньваў уяўленне яшчэ больш пышнай каларыстыкай. Здавалася, што трывае тут несціхальны спектакль сярод вясёлкавых скал з іх прыдуманымі, сапраўды нібыта сцэнічнымі кшталтамі. Далікатны шум мора, што быў фонам для гоману фанатаў пляжнага загару, і гэта бестурботнае плюханне ў ізумруднай вадзе напаміналa незвычайную святочную містэрыю, быццам не з нашага свету.

Якраз прылапаў сябе я на думцы, што гэта і ёсць спектакль і на самой справе ўсё гэта прыдуманае. Дастаткова толькі заплюшчыць вочы. А калі іх зноўку адкрыеш, свет аказваецца абыдзенна шэры, а людзі, гоман якіх чую вакол сябе, пакажуць сваё сапраўднае заклапочанае абліча. А калі нехта і ўсміхнецца, то будзе гэта ўсмешка вымушаная, а можа ліслівая, а можа назаўжды прыклееная да твару грымаса, якая невядома калі перастала быць усмешкай. Я стаў лічыць да дзесяці і раптам расплюшчыў вочы – каб нішто не паспела пераіначыцца, каб гэты сцэнічны свет прылапаць на яго гарачым учынку і выткнуць яму, што я ўжо ва ўсім палапаўся, усё зразумеў да апошняй дробязі і крышынкі і больш мяне ніхто не ашукае. Гоп!

І на адзін міг асепленым маім вачам свет паказаўся яшчэ прыгажэйшым, колеры яшчэ больш вытанчанымі, і сонца, пераліваючыся ў хвалях, быццам хацела сарвацца з небасхілу, каб ахалануцца хоць на хвілінку ў цудоўнай асвяжальнай вадзе. Вібрыруючая прыгажосцю аўра пранікала наскрозь, выпалосквaючы з людзей слізь, што гадамі адкладалася ад празмернасці турбот, ажно, набрынялыя лёгкасцю, ляцелі яны ў крышталёвыя хвалі і закалыхваліся далікатным халадком.

Аўра якраз працавала над кожным, хто апынуўся тут, і калі ты ўбачыў дарослага мужчыну або жанчыну, што плюхаюцца ў вадзе як перапоўненыя радасцю дзеці, а на іх

тварах успыхнула хоць бы хвіліннае шчасце, то гэта быў знак, што менавіта яна, аўра, і завалодала імі. Яе пасланыя Богам вібрацыі ўзбуджаюць у іх натуральны рэзананс, гэты астральны прыбор, што ачышчае сэрца і розум, цела і душу.

Я ляжаў на вадзе і ўглядаўся ў прастору неба. Аўра ахапіла мяне раптам, запалоніла цела да апошняй клетачкі. Адкрыты, нібыта кветка лотаці, калыхаўся я на хвалях, а здзіўлены мозг неўзабаве дазволіў ёй завалодаць сабой і несціся адначасова ў глыбіні космасу і мора, спалучаныя ў цудоўную, вібрыруючую боскасцю, еднасць.

Вярнуў мяне з незямных пастораў у рэчаіснасць Павел. Ён амаль выкрычаў у вуха, што аквалангі ўжо на пантоннай лодцы, гатовыя да апошняга спуску пад ваду.

На гэты раз мы выплылі на заходні край кліфа Калянш. Сыходзілі ўніз няспешна, углядаючыся ў месячны ландшафт, дзе на светлажоўтым дне, засеяным ракавінамі, параскіданы былі гіганцкія скалы з мноствам абломкаў. Усё вакол пакрывалася празрыстай сінечай, якая згушчалася ў зацененых абрывах, пячорах і тунэлях паміж велізарнымі базальтавымі блокамі. А ўсюды кіпела нікім не турбуемае жыццё. Тут нават рыбакі не закідаюць свае сеці, таму што траліць дно зусім немагчыма. Час ад часу з’яўляліся палотнішчы рознаформнай марской травы, сярод якой распаўзаліся крабы, малюскі, разгульвалі прыдонныя рыбы. На камяністым дне, на скальных палачках на глыбіні да дзесяці-пятнаццаці метраў гарэлі чырванню зоркі. З-пад скальнага навеса выплыла трыццацісантыметровая скарпена з натапыранымі калючкамі, сярод якіх ёсць і грозныя для чалавека, насычаныя ядам. Лепш на іх не напароцца, таму мы з Паўлам разглядалі яе, размалёваную і шматколерную з мноствам рознай велічыні шпілек, з адлегласці.

Асабліва тут, сярод скальных веліканаў, з якіх многія вырастаюць над люстрам вады з глыбіні звыш трыццаці метраў, і незлічонай колькасці меншых, ствараючых разам тунелі і ратонды, быццам укладаў іх звар’яцелы архітэктар-

мастак з п’яным скульптарам, хоць бы таму, што многія з іх напаміналі дзіўна павыкручваныя фігуры істот з паверхні Зямлі. Пейзаж мяняўся з кожным метрам, калі з-за светлай або цёмна-сіняй зацененай занавесы выплывалі новыя скальныя тварэнні гэтага падводнага супермадэрнага мегаполіса, заселенага мільённаформным жыццём, што мітусіцца на розных паверхах кожны паасобку і адначасова ўсёй велізарнай грамадою. Плывеш, бы заварожаны, абмыты магіяй падводнага свету з клопатаў і турбот зямной штодзённасці, якія праглынаюць бязлітасна час, адведзены табе самім Богам і ўпісаным у твой лёс і не на тое, каб ты сам на сябе накладаў бяссэнсавыя пакуты і марнатравіў шансы, падараваныя напачатку родаў, а выкарыстаў іх і такім чынам узвысіў сваю несмяротную істоту, якая падарожнічае па сусветах нашага планетарнага космасу, каб увайсці на галактычны ўзровень, завяршаючы свой шлях залатога ўздыму.

А ты тут, заглыблены ў марскую тоню, і на самай справе чужаніца, узброены выключна толькі сваімі вачыма, дотыкам і слыхам, без падарожнікавага папярэджання, што табе можа пагражаць тут жа, паўсотні метраў ад цябе, чаго ты, схаваны па-за празрыстасцю вады, бачыць не можаш. Таму што ты зайшоў у чужы дом, не прошаны. Ты нават не ведаеш, ці непрыязныя табе жыхары, якія намерылі цябе сваімі сенсарнымі клеткамі і ведаюць, дзе ты, не ўздумаюць расправіцца з табою. А ты, тым не менш, захоплены гэтым светам, заварожаны яго незямной прыгажосцю, перамяшчаешся тут з верай у сваю шчаслівую зорку, якая вядзе цябе бяспечна ўсюды і пільнуе. Магчыма, так будуць адчуваць сябе першадаследчыкі новых планет.

*

Увечары мы мелі развітальную вячэру ў рэстаране Порта. Усё было падрыхтавана да выезду ў порт Бастыя,

адкуль нас у Ліворна давязе той самы паром “Корсіка Фэріес”. Як заўжды, абкупімся ў “фры-шопіку”, дзе бяспошліннае віскі будзе нашым прадуктам нумар адзін. Вяртаемся праз Аўстрыю. Там у нас запланаваны, як не раз раней было, начлег у агратурыстычнай кватэры прыгарада Грац. Затым – праз Вену, Братыславу да самай Чэнстаховы. Адтуль толькі мы самі рушым у Беласток.

Вярнуўшыся з рэстарана, нашы жанчыны пазбіралі астатнія рэчы для ўпакоўкі – асноўнае было ўжо ў багажніку. Пасля гадзіннай мітусні мы ўселіся пры навонкавым стале на лавах. Мамам мы адкрылі бутэльку карсіканскага віна. А мы з Яцэкам рашылі прыняць па чарцы-дзве карсіканскай. Аднекуль знізу, як быццам з пляжа, пачуліся гукі натхняльнага рока. Хлопцы ўспомнілі, што гэта іграе, мабыць, сам Іль Муўрыні. Плакаты аб ягоным канцэрце віселі паўсюль.

Мне нечакана захацелася пабыць на канцэрце, пабачыць гурт. Павел устаў, каб паехаць разам са мной. Іншыя рашылі слухаць адсюль, расслабляючыся чарачкай карсіканскіх спецыяў.

Мы селі ў “Рэно” і паціху з’ехалі ўніз да мосціка, адтуль крутанулі ўверх гары, каб па яе схіле даехаць да высокай скалы, пры якой было месца для машыны. У яе падножжа была змантаваная сцэна, на якой выступаў гурт Іль Муўрыні. Навокал, проста на камяністай прасторы часткі пляжа і сярод эўкаліптавых дрэў, сядзелі на прывезеных з сабой рыбацкіх стульчыках і палатняных раскладных крэслах не менш тысячы карсіканцаў. Яны слухалі песні. І калі ў ёй з’яўляліся словы аб свабодзе, яны ў экстазе зрываліся з месцаў і бурна рэагавалі, а рэха іх магутнага клічу пралятала праз гай і, акрыленае магутнасцю доўгачаканай волі, адбівалася з шматкратнай сілай ад Капу Вітулю і супрацьлеглай гары, каб, вярнуўшыся з абодвух бакоў, сутыкнуцца з імпэтам і рвануць увысь над эўкаліптавым гаем, пад купал карсіканскага неба – каб абвясціць

акупанту, што час волі блізкі.

Узрушыўшыся, я сціснуў Паўла за плячо.

Лібэртэ!

Што можа быць даражэйшае для людзей, для кожнага чалавека!? Для падляшскага беларуса таксама.

Вольнасць!

Свабода!

*

Два дні мы вярталіся на сустрэчу з нашай штодзённасцю, а я – на падрыхтаваны налогавай паліцыяй і пракурорам спектакль. Пасля Корсікі судовую разборку я ўспрымаў сапраўды як спектакль. Без унутранай напружанасці і без стрэсу. Я зноўку вярнуў у сваё цела сябе самога, якому ўпіхнулі ў падсвядомасць страх аказацца смешным, зганьбіць імя сваё крымінальна прычэпленым ярлыком ашуканца і злодзея. І што!? Праўду я сам ведаю, а тое, што ім удасца прышыць, раней ці пазней абернецца супраць іх саміх.

Познім вечарам з вакна дзевятага паверха я паглядзеў на будынак беластоцкага суда, дзе для мяне прызначана роля крымінальніка. Я быў гатовы. Яна, Корсіка, ачысціла мяне ад пачуцця безнадзейнасці, характэрнай любому чалавеку, якога звыш года заганялі ў куток.

Праз пару дзён я сустрэўся з адвакатам. Перадаў яму акт абвінавачання, растлумачыў закіды пракуратуры.

Верасень быў цёплы, сонечны і прыгожы. Вуліцы поўніліся моладдзю, якая вярнулася з канікул, што найчасцей праводзіла ў дзеда і бабы на вёсцы. Беластачане ў асноўнай сваёй масе выхадцы з гэтых вёсак. Мінуў час, калі дзяржава арганізоўвала адпачынак для большасці дзяцей ў маладзёжных турбазах, гарцэрскіх лагерах. Сённяшнія ўлады не бачаць патрэбы фінансаваць адпачынак дзетак. Капіталізм не прадбачвае раздачы сродкаў на ніякія сацыяльныя

патрэбы. За выпрацаваныя грамадствам сродкі трэба ўтрымаць перш за ўсё яе, уладу, і тых, хто за яе пастаіць і будзе берагчы ейны спакойны быт – паліцыю і дзесяткі спецслужбаў. За ахову здароўя цяпер, як і раней, трэба плаціць штомесячныя складчыны, якія бяруцца з зарплаты. А калі захварэў нечым больш сур’ёзным і ў цябе няма грошай на прыватнае лячэнне, не дачакаешся ў чарзе, распісанай сёння на гады, чаго раней і ў чорных снах не было. А тое, што памрэш – гэта нічога страшнага. Усе паміраюць.

Гавораць, што цяпер будзе добра, а нават штораз лепей!

Я ўжо пераканаўся...

Ішоў я на першую судовую разборку. Суд паклікаў звыш пяцьдзесят сведкаў маёй нібыта махлярскай дзейнасці. Спяшацца мне не было чаго – заўтра мяне ў цямніцу не кінуць і не меней года-паўтара трэба будзе прыходзіць на разборкі, жыць пад іх пастаянным маральным ціскам. Вось так менавіта тое і задумана. Прытым яны ж добра ведалі, што я – “нацыяналіст”, нацмен.

У зале суда мяне пасадзілі на лаве падсудных.

Я спакойна адказваў на пытанні суддзі... Пасля саракахвіліннага допыту суддзя стукнула малатком, чым закончыла першы дзень разборкі.

Мы з Пятром мелі час на імпарт і пастаўку тавару на фабрыкі. Аб’ёмы раслі, з’яўляліся новыя магчымасці бізнесу. Пётр працаваў са мной да канца верасня, затымі паехаў у Мінск заканчваць апошні курс у Акадэміі мастацтва. І, закончыўшы яе, там жа ў Мінску прадоўжыў вучобу ў вітражыста на Беларускім мастацкім камбінаце Лёвы Кардаша. Менавіта вітражы, а не інтэр’ер, які ён вывучаў пяць гадоў, стануць ягонай асноўнай мастацкай прафесіяй.

Судовыя разборкі паступова пераўтвараліся ў элемент рытму жыцця, куды я заходзіў быццам па справах, адседжваў свой час на прызначаным для крымінальніка месцы, прасіў адваката паставіць сведку нейкае пытанне і, дачакаўшыся канца спектаклю, ішоў займацца сваімі справамі.

У той час мы таксама распачалі экспарт мясной прадукцыі ў Маскву.

Судовы працэс ішоў сваім няспешным рытмам.

У рэшце рэшт суд прызнаў мяне віноўным у невялікіх памылках бухгалтэрыі. Якраз над Беластокам узнялася кароткая навальніца з ліўнем. Суддзя, азірнуўшыся на вокны залы, параіў мне памяняць бухгалтара на іншага і прысудзіў сімвалічную квоту – пяцьсот злотых на Камітэт дзяцей пры Чырвоным крыжы і адпусціў мяне на волю.

Успомнілася раптам зноў тая фраза, што прыйшла мне ў галаву перад самым нашым выездам на Корсіку: “Паспець, пакуль змеркне дзень”.

Я глянуў на царкву святога Мікалая. Па-над ёю красавалася падвойная Ра-дуга, выкліканая яркім сонцам другой паловы дня. Можа яна пасланая Богам, каб абвясціць людзям добрую навіну. Да змяркання было яшчэ далёка.

*Трысцянка ў чэрвені 2014 года*

Рэдактар
*Янка Дубіцкі*

Тэхнічны рэдактар
*Павел Бельскі*

Фатаграфія
*Вольга Стахвюк*

Выдадзена за кошт сродкаў Культурнага цэнтра Беларусі
пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Польшчы



ISBN 978-83-7657-106-5

Nr 92




Mariusz Śliwowski
ul. Kolejowa 19; 15-701 Białystok
tel. 602 766 304,
e-mail: prymat@biasoft.net, www.prymat.biasoft.net